16 траўня 2020 | № 18 (677)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

ISSN 2218-2144

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

**Як вы мову назавяце...**
**Стар. 9**

**4 ЯК ЛУКАШЭНКА ГАЛАСАВАЎ ЗА ШУШКЕВІЧА**

Першы сапраўдны беларускі парламент запрацаваў 30 гадоў таму. Менавіта той склад Вярхоўнага Савета пераўтварыў БССР у Беларусь і абвясціў яе незалежнай

**5 ВОСЕМ ПЫТАННЯЎ ПРА БЕЛАРУСКУЮ АЭС**

Пуск першага энергаблоку Беларускай АЭС адбудзецца не раней за ліпень. А вось ці патаннее электраэнергія для беларусаў?



**6 – 7 «ДЫСКУСІЯ» ЯК ЗБРОЯ**

Расія выкарыстоўвае сеціва так званых дыскусійных клубаў для вядзення прапаганды і інфармацыйна-псіхалагічных аперацый

**10 – 11 «ЧАЛАВЕЧЫЯ НАТОЎПЫ ПРАЦЯГВАЮЦЬ СВАЕ СКОКІ СМЕРЦІ»**

Лекар з Гомеля яшчэ ў пачатку мінулага стагоддзя распрацаваў метад лячэння, які, магчыма, можна выкарыстаць і супраць наступстваў каронавіруса

# Кандыдаты–2020: калі не Лукашэнка, то хто з іх?

Павел КІРЫЛАЎ

**Ужо амаль два дзясяткі асобаў заявілі пра сваё жаданне ўзяць удзел у прэзідэнцкай выбарчай кампаніі–2020 у Беларусі. У ліку супернікаў Аляксандра Лукашэнкі можа апынуцца болей за паўсотню асобаў. Інтрыгаў ужо на гэтым этапе некалькі: напрыклад, хто з вылучэнцаў сапраўды апанент кіраўніка краіны, а хто — спарынг-партнёр?**



Фота www.severpost.ru

Адразу зазначым: сёлета, па ўсім, будзе рэкорд па колькасці ахвотных зарэгістраваць свае ініцыятыўныя групы. Але і падчас мінулых кампаніяў прэтэндэнтаў было багата. На выбарах–2015 у Цэнтрвыбаркам дакументы былі пададзеныя 14 ініцыятыўнымі групамі, у 2010-м — 19, у 2001-м — аж 26.

Пералічым тых, хто заявіў цяпер пра свой намер балатавацца і фарміраваць ініцыятыўную групу па зборы подпісаў за вылучэнне кандыдатам у прэзідэнты. Для гісторыі. Бо камусьці гэты спіс — багацце выбару, а некаму — «і жук, і жаба».

Такім чынам, у якасці прэтэндэнтаў фігуруюць: удзельнікі праймерыз правацэнтрысцкай апазіцыі, у якіх не атрымалася праз каронавірус ды ўнутраныя спрэчкі вызначыцца з адзіным кандыдатам, — хрысціянская дэмакратка Вольга Кавалькова, выканаўца абавязкаў старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі Мікалай Казлоў і кіраўнік руху «За Свабоду» Юрый Губарэвіч; лідар арганізацыі «Гавары праўду» Андрэй Дзмітрыеў; былая дэпутатка Палаты прадстаўнікоў Ганна Канапацкая; лідар Ліберальна-дэмакратычнай партыі, дэпутат Палаты прадстаўнікоў Алег Гайдукевіч; лідар БСДГ Сяргей Чэрачэнь, тры «кандыдаты пратэсту» з каманды Статкевіча — беспрацоўная Анжаліка Жалезнікова, іпэшнікі Вераніка Мішчанка і Аляксандр Грачышнікаў; фермер Юрый Ганцэвіч; інжынер-канструктар і блогер Віталь Зялкоўскі, вядомы сваімі сэлфі з суровым тварам; блогер Сяргей Ціханоўскі (ютуб-канал «Краіна для жыцця»); блогер-дакументаліст Павел Спірын; банкір Віктар Бабарыка (з 12 траўня ўжо былы старшыня праўлення «Белгазпрамбанку»); былы кіраўнік Парку высокіх тэхналогій Валерый Цапкала; грамадскія актывісты Уладзімір Няпомняшчых і Мікалай Арцюхоў; бізнесвуман у галіне грузаперавозак Наталля Кісель; прадпрымальнік Уладзімір Правальскі.

Разам з Аляксандрам Лукашэнкам — ужо два дзясяткі чалавек. Хутчэй за ўсё, з'явяцца іншыя прэтэндэнты — як фрыкі ды самарэкламоўцы, так і вядомыя персоны з сапраўды палітычнымі амбіцыямі. Цікава, што ў інтэрнэце створана петыцыя са зваротам балатавацца да прэм'ер-міністра Сяргея Румаса.

Прозвішчы вылучэнцаў на прэзідэнта сілкуюць здагадкі палітычна актыўных грамадзян наконт таго, хто можа быць спарынг-партнёрам Аляксандра Лукашэнкі. У гэтую выбарчую кампанію такіх тэхнічных і падстаўных кандыдатаў называюць па-навамоднаму — спойлерамі. За такіх палітыкаў з лагера апазіцыі некаторыя лічаць ужо некалькі гадоў Андрэя Дзмітрыева і Ганну Канапацкую. Алег Гайдукевіч рэпутацыю спарынг-партнёра атрымаў па спадчыне ад бацькі Сяргея Гайдукевіча, які некалькі разоў ствараў фонавую кампанію на выбарах Аляксандру Лукашэнку.

**Масква будзе мець нейкі свой інтарэс падчас прэзідэнцкай выбарчай кампаніі–2020: як мінімум пагуляе на нервах кіраўніка Беларусі**

У інтэрнэце разгарнуліся дыскусіі вакол Валерыя Цапкалы — ці самастойны ягоны паход? Між тым, у сваім першым жа інтэрв'ю на dev.by у статусе прэтэндэнта на прэзідэнцкую пасаду Цапкала заявіў: «Я не ў апазіцыі да дзейнай улады, і наогул ні да каго не ў апазіцыі... Я лічу, што ў нас павінна быць такая палітычная сістэма, дзе было б месца розным поглядам, рознаму бачанню развіцця краіны».

Яшчэ адна інтрыгоўная тэма: хто можа стаяць за больш-менш сур'ёзнымі супернікамі для Лукашэнкі — Захад ці Масква? Калі большасць каментатараў у інтэрнэце схіляецца, што Цапкалу могуць дапамагчы заходнія грошы, то вельмі верагодным называецца дапушчэнне, што расійскі капітал можа стаяць за Бабарыкам (глядзіце назву яго банка) і Ціханоўскім, які меў бізнес-справы ў Расіі і зрабіўся папулярным блогерам, які стварае крытычныя датычна ўладаў сюжэты, літаральна ў апошнія месяцы.

Ясна адно: Масква будзе мець нейкі свой інтарэс падчас прэзідэнцкай выбарчай кампаніі–2020: як мінімум пагуляе на нервах кіраўніка Беларусі. Тым болей, апошнім часам праблемаў у двухбаковых адносінах процьма. Мінск і Крэмль папікіраваліся нават наконт каронавіруса. Напрыклад, у інфапрасторы могуць з'явіцца фільмы кшталту «Хросны бацька», як у 2010 годзе. Да ўсяго цыркулююць чуткі, што грашыма тады некаторых апазіцыйных кандыдатаў падтрымліваў расійскі алігарх Сулейман Керымаў.

Яшчэ адна інтрыга, якая тычыцца прэзідэнцкай выбарчай кампаніі–2020, палягае ў тым, хто з прэтэндэнтаў, апрача Лукашэнкі, здолее сабраць неабходныя для рэгістрацыі кандыдатам у прэзідэнты 100 тысяч подпісаў грамадзян Беларусі. Аналітыкі і ветэраны-актывісты кажуць, што ў напаўкаранцінных умовах каронавіруснай эпідэміі — ніхто. Маўляў, з вялікай верагоднасцю можа паўтарыцца гісторыя 2010 года, калі цэлы шэраг кандыдатаў зарэгістравалі проста так або паводле прадстаўленых ксеракапійных аркушаў з подпісамі.

Пры ўмове сумленных выбараў хіба з паўдзясятка прэтэндэнтаў маглі б скласці годную канкурэнцыю Аляксандру Лукашэнку. То-бок, справа магла б дайсці да другога туру.

Працяг на стар. 2 »

## Кандыдаты–2020: калі не Лукашэнка, то хто з іх?

« Працяг. Пачатак на на стар. 1

На жаль, аб'ектыўных сацыялагічных замераў рэйтынгу Лукашэнкі на цяперашні момант няма, але імаверна, што ён рэкордна нізкі за ўвесь час кіравання. Пратэстныя настроі дастаткова шырокія.

Ускосна пра іх можна меркаваць паводле таго, як беларусы адрэагавалі на заклік Лукашэнкі нягледзячы на эпідэмію весці дзяцей на вучобу ў школы. Больш за 50 працэнтаў бацькоў праігнаравалі гэты зварот кіраўніка краіны. А многія, хто выправіў дзяцей у школы, папросту не маглі іх пакінуць адных дома, нават маючы такое жаданне. Па сутнасці, адбыўся своеасаблівы страйк з боку сотняў тысяч сем'яў. Падобная сітуацыя паўтарылася датычна правядзення парада на Дзень Перамогі ў Мінску. А напярэдзе непазбежны эканамічны заняпад праз той самы каронавірус.

І рэакцыяй на паход Лукашэнкі на чарговы пяцігадовы тэрмін можна стаць не толькі масавае ігнараванне выбараў, але і страйкавая Плошча. Улады ўжо рыхтуюцца да яе старым спосабам — з дапамогай рэпрэсіяў: у першыя ж дні пасля абвяшчэння выбараў на 9 жніўня дзясяткі актывістаў, а таксама журналістаў апынуліся за кратамі.

# Несвабода сходаў: больш за 100 затрыманых, больш за 50 закратаваных

НЧ

**Напярэдадні абвяшчэння прэзідэнцкіх выбараў па краіне прайшла хваля затрыманняў актывістаў, журналістаў, праваабаронцаў і блогераў. Паводле інфармацыі праваабаронцаў, былі затрыманыя каля 120 чалавек.**

На стан 13 траўня адміністрацыйнымі арыштамі пакараныя каля 50 чалавек. Некаторыя з іх ужо на волі, але большая частка працягвае знаходзіцца ў ізалятарах па ўсёй Беларусі.

Блогера Сяргея Ціханоўскага (канал «Краіна для жыцця») затрымалі 6 траўня. Яго адправілі адбываць 15-сутачнае пакаранне за ўдзел у снежаньскай акцыі супраць інтэграцыі з Расіяй. За кратамі таксама знаходзіцца блогер Іван Рамязоўскі («Real Belarus»), асуджаны на 15 сутак.

7 траўня быў асуджаны на 15 дзён Аляксей Саламашэнка за ўдзел у акцыі «кармлення галубоў» каля нулявога кіламетра ў цэнтры Гомеля 3 траўня. Грамадскага актывіста Юрыя Уласава таксама арыштавалі на 15 сутак. Яго затрымалі 7 траўня разам з яшчэ 19 удзельнікамі акцыі ў Гомелі. Усіх, акрамя Уласава, увечары адпусцілі.

8 траўня суд Ленінскага раёна Магілёва адправіў на «суткі» пяць чалавек, якіх затрымалі яшчэ 6 траўня. Гэта каманда «Краіны для жыцця» і жыхары Магілёва, якія адбівалі затрыманых ад міліцыі. Адбывае арышт блогер Уладзімір Нянронскі («Слуцк для жыцця»), які быў асуджаны на 10 сутак.

Суды за ўдзел у магілёўскіх акцыях працягваліся 11 і 12 траўня. За гэтыя дні ў Магілёве адміністрацыйнымі арыштамі пакараныя дзесяць чалавек. Сярод іх праваабаронца-журналіст «Магілёўскай вясны» Аляксандр Буракоў, якога затрымалі 8 траўня каля суда, дзе ён збіраўся ажыццяўляць маніторынг. Суд Ленінскага раёна Магілёва абвінаваціў праваабаронцу ў 2-хвілінным удзеле ў несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве і асудзіў на 10 сутак арышту. Сярод арыштаваных — каардынатар ініцыятывы «За здаровы Магілёў» Андрэй Бодзілеў (7 сутак) і журналіст БелаПАН Алесь Асіпцоў (10 сутак). Асіпцоў на знак пратэсту абвясціў галадоўку.

Фельчар хуткай дапамогі з Ліды Павел Палейчык быў затрыманы 7 траўня і на наступны дзень быў асуджаны на 7 сутак. Яго абвінавацілі ва ўдзеле ў несанкцыянаванай сустрэчы з блогерам Сяргеем Ціханоўскім. На той сустрэчы Палейчык распавёў пра цяжкасці, з якімі сутыкаюцца медыкі падчас эпідэміі каронавіруса. Таксама 7 сутак прысудзілі жыхару Ліды Андрэю Паляковічу за ўдзел у той жа сустрэчы. 7-сутачным арыштам пакаралі яшчэ аднаго фельчара Алега Краўца, на той жа тэрмін адправілі за краты Максіма Палонскага, і на 15 сутак — Паўла Анціпкіна, бацьку чатырох дзяцей.

Гродзенскаму актывісту Аляксандр Лаўрэнцьеву 8 траўня прысудзілі 7 сутак адміністрацыйнага арышту, але на волю ён павінен выйсці толькі ўвечары 16 траўня, бо ў яго «не даседжана» 2 сутак. Таксама па артыкуле 23.34 КаАП у гродзенскім ізалятары працягваюць адбываць адміністрацыйны арышт Алена Сахарчук і Юрый Шока.

У Бабруйску 12 траўня адбыліся суды над удзельнікамі «Антыпараду» 9 траўня. Сярод асуджаных — нават тыя, хто проста чакаў на прыпынку свой аўтобус. На 10 сутак адправілі за краты пяць чалавек, 12-сутачным арыштам пакаралі блогера Дзмітрыя Цімафеева.

У Мазыры арыштам пакаралі трох чалавек. Гэта Вячаслаў Удавенка, асуджаны на 10 сутак, Віталь Грыцкоў — на 15 сутак, і Аляксандр Цуканаў, якога асудзілі на 25 сутак арышту. Апошняга судзілі паводле двух артыкулаў: за ўдзел у несанкцыянаваным мерапрыемстве і за непавагу да суда.

У Оршы суд пакараў паводле арт. 23.34 КаАП 10-сутачным адміністрацыйным арыштам Аляксандра Андрэева і Іллю Ціханава. Андрэя Зуева з Наваполацку суд пакараў 7 суткамі арышту.

У панядзелак, 11 траўня, у Мінску асудзілі на 13 сутак актывіста «Моладзевага блоку» Данілу Лаўрэцкага. 8 траўня «Моладзевы блок» зладзіў акцыю з трубой падчас генеральнай рэпетыцыі параду. Арыштаваны на 10 сутак журналіст з Глыбокага Зміцер Лупач. У лякарні знаходзіцца брэсцкі блогер Сяргей Пятрухін, якога асудзілі на 15 сутак. Пасля выпіскі ён павінен прыйсці ў ізалятар адбываць пакаранне.

Прадстаўнік АБСЕ па пытаннях свабоды СМІ Арлем Дэзір асудзіў арышты беларускіх журналістаў. У сваёй заяве ён заклікаў неадкладна вызваліць усіх затрыманых журналістаў. А прэс-сакратар Еўрапейскай службы знешніх дзеянняў Петэр Стана падкрэсліў, што затрыманні і суды над дзясяткамі ўдзельнікаў мірных акцый, што прайшлі ў апошнія дні, «парушаюць асноватворную свабоду сходаў».

Некаторых актывістаў яшчэ чакаюць суды.

# Аршанскі райвыканкам не можа вызначыць месца для ўшанавання памяці ахвяр рэпрэсій

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Намеснік старшыні Аршанскага райвыканкама адказаў на зварот актывістаў аб усталяванні памятнага знака на месцы масавых пахаванняў ахвяраў сталінскіх рэпрэсій у лесе на Магілёўскай шашы пад Оршай.**

Пра гэта «Новаму Часу» паведаміў нашчадак расстраляных, каардынатар грамадскай кампаніі «Забітыя, але не забытыя» Ігар Станкевіч.

У адказ на калектыўны зварот намеснік старшыні Аршанскага райвыканкама Віктар Калачоў паведамляе, што распрацоўшчыкам горадабудаўнічага праекта «Генеральны план г. Оршы» УП «БЕЛНИИПГРАДОСТРОИТЕЛЬСТВА» былі дадзены рэкамендацыі па меркаваных месцах масавых пахаванняў: «Дадаткова варта ўлічыць інфармацыю аб меркаваных месцах масавых пахаванняў у ваколіцах г. Оршы ахвяр рэпрэсій 1930-х гг. У сувязі з гэтым да пачатку земляных работ на названых тэрыторыях рэкамендуецца правядзенне папярэдняга абследавання месца з прыцягненнем асобнага спецыялізаванага батальёна Упраўлення па ўвекавечанні памяці абаронцаў Айчыны і ахвяр войнаў Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь».

Разам з тым, ва ўліковых дадзеных Занальнага дзяржаўнага архіва Оршы звестак пра месцы масавых расстрэлаў ахвяр палітычных рэпрэсій на тэрыторыі Оршы і Аршанскага раёна, а таксама дакументаў камісіі па аказанні садзейнічання ў забеспячэнні правоў і інтарэсаў рэабілітаваных і стварэнні помнікаў ахвярам рэпрэсій перыяду 1930–1940-х і пачатку 1950-х гадоў, якія змяшчаюць згаданую інфармацыю, не маецца.

Для атрымання дадатковай інфармацыі аб месцах масавых пахаванняў ахвяр рэпрэсій у Аршанскім раёне Занальны дзяржаўны архіў Оршы зрабіў запыт у Дзяржаўны архіў Віцебскай вобласці, але там дадзеных пра месцы расстрэлу ахвяр палітычных рэпрэсій на тэрыторыі Аршанскага раёна і Оршы ў 1920–1950 гадах, а таксама звестак пра месцазнаходжанне дакументаў, якія змяшчаюць згаданую інфармацыю, няма.

Іншых матэрыялаў, акрамя выкладзеных у акце камісіі прадстаўнікоў савецкіх і адміністрацыйных органаў ад 20 верасня 1982 года, якія пацвярджаюць масавыя расстрэлы і месцы пахаванняў ахвяр палітычных рэпрэсій у Аршанскім раёне, не маецца, дакументальна зафіксаваныя паказанні сведак адсутнічаюць.

Што тычыцца ляснога масіву па Магілёўскай шашы ля вёскі Панізоўе (раней — вёска Паддубцы), намеснік старшыні райвыканкама паведамляе, што раскопкі там не рабіліся, дакументальна зафіксаваныя паказанні сведак адсутнічаюць.

З улікам таго, што інфармацыя, якая змяшчаецца ў тлумачальнай запісцы распрацоўшчыка Генеральнага плана Оршы, носіць рэкамендацыйны характар, а таксама па прычыне адсутнасці задакументаваных дадзеных, якія афіцыйна пацвярджаюць факт расстрэлу ахвяр палітычных рэпрэсій на тэрыторыі Аршанскага раёна, вызначыць месца для ўшанавання памяці загінулых у ваколіцах Оршы не ўяўляецца магчымым, лічаць у райвыканкаме.

Ігар Станкевіч мяркуе, што нават калі б для даследаванняў тэрыторыі быў прыцягнуты спецыялізаваны батальён Міністэрства абароны, гэта не вырашыла б праблемы, а толькі пагоршыла яе.

«Мы ведаем, як працуе гэты батальён. Яго задача — не зрабіць аб'ектыўнае даследаванне, а, хутчэй, схаваць сляды рэальных злачынцаў. Так, напрыклад, было ў Хайсах. Тое, што яны зрабілі з расстрэльнымі ямінамі, інакш, як вандалізмам, назваць нельга. Гэта не даследаванне, а разарэнне пахаванняў. Лепей іх не чапаць. Шмат костак пасля іх так званай "працы" было проста раскідана па лесе. Больш за тое, яны — не навукоўцы. Таму, калі будуць весціся даследаванні, мы будзем дамагацца прыцягнення сапраўдных навукоўцаў, будзем уважліва сачыць за тым, што і як яны робяць».

Актывіст падкрэслівае, што адказ уладаў — не навіна. «Мы бачым, як дзяржава глядзіць на тэму рэпрэсій. Іх быццам бы наогул не было. У Беларусі па сённяшні дзень афіцыйна не названая лічба рэпрэсаваных, не вызначана ні адно, апроч Курапатаў, месца масавых пахаванняў ахвяраў сталінізму, закрытыя архівы са справамі рэпрэсаваных, КДБ не садзейнічае, а хутчэй перашкаджае сваякам атрымліваць звесткі па рэпрэсаваных продкаў. А Нацыянальны архіў нават незаконна схаваў базу неабгрунтавана рэпрэсаваных».

Нашчадкі рэпрэсаваных не давяраюць уладам і збіраюцца выкарыстоўваць іншыя магчымасці для ўшанавання памяці сваіх продкаў.

Нагадаем, у лесе на Магілёўскай шашы пад Оршай у жніўні мінулага года знайшлі чалавечыя косткі, пачалася праверка, аб выніках якой грамадскасці не паведамілі. Не выключана, што гэта маглі быць парэшткі савецкіх грамадзян, якіх расстрэльваў НКУС у 1930-я гады. Адна з «дарог смерці» тады праходзіла па размешчанай побач Магілёўскай шашы, а самі расстрэлы адбываліся каля вёскі Паддубцы (цяпер Панізоўе). Пра масавыя расстрэлы ў гэтым лесе таксама гаворыцца і ў кнізе «Памяць» Оршы і Аршанскага раёна.

Актывісты грамадскай кампаніі «Забітыя, але не забытыя» стварылі інтэрнэт-петыцыю, у якой прасілі, каб улады ўсталявалі знак у памяць аб расстраляных у лесе на Магілёўскай шашы людзях. У выпадку адсутнасці ў Аршанскага райвыканкама неабходных сродкаў аўтары звароту прасілі вызначыць месца і дазволіць нашчадкам расстраляных усталяваць такі знак за ўласныя сродкі.

Пад петыцыяй, адпраўленай у Аршанскі райвыканкам, падпісалася больш за 200 чалавек.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# А што вы хочаце ад урада?

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Днямі ў інтэрнэце на пляцоўцы зваротаў change.org з'явілася цікавая петыцыя. Яе аўтары заклікаюць балатавацца кандыдатам у прэзідэнты сённяшняга прэм'ер-міністра Сяргея Румаса. «З Вашым прыходам на пасаду прэм'ер-міністра Беларусі ў беларускім грамадстве з'явіўся прамень надзеі на абнаўленне. Нягледзячы на ўсе відавочныя перашкоды, займаючы другую па значнасці ў рэспубліцы пасаду, вы даказалі свой прафесіяналізм, прыстойнасць і заслужылі давер людзей», — сцвярджаюць аўтары петыцыі.**

Гледзячы на апошнія паводзіны беларускага ўрада, гэтая петыцыя падобная на, як кажуць у тых жа інтэрнэтах, «тролінг» альбо завуаляваны здзек. Асабліва калі браць пад увагу пасяджэнне прэзідыума Саўміна, якое прайшло ў аўторак.

На гэтым пасяджэнні спадар Румас заявіў, што «нягледзячы на знешнія шокі», сітуацыя ў эканоміцы Беларусі ў першым квартале гэтага года была «кіраванай». «У першым квартале эканоміка знаходзілася пад уздзеяннем шэрагу знешнеэканамічных шокаў. Падатковы манеўр, адсутнасць дамоўленасцяў з расійскім бокам па пастаўках нафты істотна ўскладнілі працу нафтахімічнай і транспартнай галін. Закрыццё межаў краінамі-суседзямі з-за пандэміі адбілася ў першую чаргу на сферы паслуг. Зніжэнне коштаў на сыравінных рынках, дэвальвацыя расійскага рубля паўплывалі на працу машынабудаўнічай галіны. Разам з тым сітуацыя ў эканоміцы ў студзені-сакавіку была кіраванай», — сказаў Румас, падводзячы вынікі працы эканомікі ў першым квартале.

Такое ўражанне, што беларускі прэм'ер альбо жыве на Месяцы, і на планету Зямля наведваецца толькі час ад часу, альбо яго прамову пісаў нехта іншы, а ён бяздумна яе агучыў. Якія ў нас «знешнія шокі»? Падатковы манеўр Расійскай Федэрацыі? Пра яго кажуць ужо як мінімум пяцігодку, усе ведаюць, што гэта павінна было здарыцца, — і здарылася. Адсутнасць дамоўленасцяў з расійскім бокам па нафце? Ці не прадстаўнікі ўраду вялі тыя самыя перамовы і не дасягнулі пагаднення? У чым тут шок, асабліва «знешні»? Усе гэтыя падзеі былі вядомыя загадзя, і да іх быў час падрыхтавацца. А вось чаму не падрыхтаваліся і гэта стала шокам — ужо іншае пытанне. І пытанне, сапраўды, да Румаса.

Канешне, у пачатку года ніхто не мог спрагназаваць, як будуць дзейнічаць нашы краіны-суседкі ва ўмовах пандэміі, і што яны закрыюць межы, пакінуўшы Сінявокую ў своеасаблівай «самаізаляцыі». Аднак ад першага выпадку заражэння COVID-19 (27 лютага, студэнт БНТУ з Ірана) да першага выпадку смерці (30 сакавіка, акцёр Віктар Дашкевіч, Віцебск) у Беларусі прайшло больш за месяц. Гэтага, па-мойму, дастаткова, каб прааналізаваць небяспеку з усіх бакоў. Да таго ж, непасрэдна да ўраду звярталіся бізнес-колы, акрэсліваючы праблему і чакаючы падтрымкі ў перыяд эпідэміі.

Пра ўсё гэта Румас і ўрад ведалі, а калі не ведалі, то ім падказвалі тыя ж бізнес-колы. «Знешні шок» быў толькі адзін — беспрэцэдэнтнае падзенне коштаў на нафту. Але ж ад гэтага Беларусь, падаецца, больш выйграе, чым страчвае? Нават ва ўмовах дэвальвацыі расійскага рубля.

Па словах Румаса, з-за пагаршэння працы нафтаперапрацоўчых заводаў, а таксама зніжэння аб'ёмаў і цэн экспарту калійных угнаенняў бюджэт Беларусі недаатрымаў каля 350 мільёнаў рублёў, — прыкладна $170 мільёнаў. Але гэта не такія вялікія грошы — у мінулым годзе мы на Еўрапейскія гульні выдаткавалі $265 мільёнаў. Дык, можа, нам трэба проста перастаць гуляцца ў розныя «Чэмпіянаты свету» ды парады?

**Менавіта дзяржава сваім «рэгуляваннем» цэнаў разганяе інфляцыю. Можа быць, каб у нас не было «сацыяльна значных тавараў» і дзяржрэгулявання, у нас і інфляцыя была б меншая, і рост коштаў не такім імклівым?**

«Мяркуючы па дынаміцы падзей, якія адбываюцца на сусветным рынку, год будзе дастаткова складаным з пункту гледжання магчымасцяў бюджэту фінансаваць капітальныя выдаткі», — сказаў прэм'ер, і зноў не паведаміў нічога новага. І без каронавіруса яшчэ напрыканцы мінулага года сусветныя эканамічныя мысляры казалі пра маштабны эканамічны спад, які пачнецца ў 2020-м.

А вось што цікавае — гэта лічбы Нацбанка, таксама апрылюдненыя на гэтым тыдні. Па звестках рэгулятара, інфляцыя ў Беларусі ў красавіку ў гадавым вымярэнні разагналася да 5,4% пры мэтавым паказчыку ў 5%.

Па меркаванні Нацбанка, на інтэнсіўнасць інфляцыі «працягнулі аказваць уплыў праінфляцыйныя знешнія фактары, якія сфарміраваліся ў канцы першага квартала 2020 года».

Зноў гэты кляты «знешні фактар»! Вось, падавалася б, навокал і межы пазакрывалі, і самалёты не лётаюць абы-куды, і людзі не ездзяць — а «знешні фактар» паўсюль, куды не зірні. Што ж гэта за навала такая?

Калі глядзець на паведамленне Нацбанка пра інфляцыю далей, то становіцца зразумела, што «знешнія фактары», насамрэч, знаходзяцца ў нас недзе ва ўрадзе. Асноўны ўплыў на разгон інфляцыі аказваюць... рэгуляваныя дзяржавай цэны, рост якіх у красавіку ў гадавым выражэнні склаў 7,3% (у сакавіку — 7,5%, у лютым — 7,4%)! Лідарамі па росце коштаў сярод тавараў і паслуг, цэны на якія рэгулююцца дзяржавай, застаецца аўтамабільнае паліва — 10,8% у гадавым выражэнні, страхаванне асабістага аўтатранспарту — 13%, тытунёвыя вырабы — 13,7%, паслугі сярэдняй адукацыі — 14,5%, паслугі вышэйшай адукацыі — больш за 18%.

Параўнаем гэтых «лідараў» з аналагічнымі лідарамі па росце коштаў у сферах, цэны на якія НЕ рэгулююцца дзяржавай. Сярод тавараў і паслуг са свабоднымі цэнамі найбольш узраслі цэны на аўтамабілі — 7,8% у гадавым вымярэнні, друкаваныя выданні — 8,1%, мыйныя сродкі — 8,4%, паслугі пасажырскага транспарту — 8,4%, крупы і бабовыя — звыш 15%.

Нават «крупы і бабовыя» (а ўсе мы памятаем нядаўні ажыятажны попыт на грэчку) не пераўзышлі лідара па росце коштаў у «рэгуляванай дзяржавай сферы» вышэйшай адукацыі. З чаго вынікае даволі простая выснова — менавіта дзяржава сваім «рэгуляваннем» разганяе інфляцыю. Можа быць, каб у нас не было «сацыяльна значных тавараў» і дзяржрэгулявання, у нас і інфляцыя была б меншая, і рост коштаў не такім імклівым?

Што ж робіць у гэтых умовах наш патэнцыйны кандыдат на прэзідэнта? Сяргей Румас загадвае рабочай групе пад кіраўніцтвам намесніка міністра антыманапольнага рэгулявання і гандлю выпрацаваць праект антыінфляцыйнай праграмы і адпаведнай пастановы Саўміна. Пры гэтым дакументы павінны быць гатовыя да... 1 верасня 2020 года!

Пакуль гэтыя праекты дапрацуюць (а ў нас без гэтага не бывае) і прымуць, сыдзе яшчэ пара месяцаў. Цікава, каму будзе патрэбная антыінфляцыйная праграма 2020 года ў лістападзе 2020 года?

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Ігар Рынкевіч



**Арганізатары Усебеларускага кангрэса за незалежнасць пераносяць мерапрыемства «на больш позні тэрмін», паведаміў адзін з каардынатараў форуму Ігар Рынкевіч.**

Першапачаткова Кангрэс збіраліся правесці 15 сакавіка, потым адклалі да сярэдзіны траўня. Планавалася правесці яго да саміту ЕАЭС, які пройдзе 19 траўня. Па заяўках ад партый, рухаў і іншых арганізацый колькасць жадаючых удзельнічаць у кангрэсе перавышае 1000 чалавек. Але большасць чальцоў аргкамітэта прынялі рашэнне пра папярэднюю колькасць дэлегатаў у 500 чалавек, таксама плануецца запрасіць 100 назіральнікаў, гасцей і прадстаўнікоў СМІ.

«У сувязі з пандэміяй каронавіруса, якая разгарнулася ў Беларусі і за мяжой, скліканне Кангрэса вымушана пераносіцца на больш позні тэрмін. Новая дата будзе прызначаная Аргкамітэтам Кангрэса з улікам развіцця эпідэміялагічнай сітуацыі і выклікамі для беларускага суверэнітэту, нацыянальнай бяспекі», — гаворыцца ў заяве.

Арганізатары заклікалі беларусаў дзяліцца сваімі прапановамі з нагоды Кангрэса ў Facebook-групе «Усебеларускі Кангрэс за незалежнасць».

## Аляксандр Кабанаў



**У знакамітага блогера, які нядаўна адбыў 15 сутак адміністрацыйнага арышту, выяўлены COVID-19. Яго сябра і калега Сяргей Пятрухін таксама ў шпіталі.**

Кабанаў і Пятрухін цяпер знаходзяцца ў Брэсцкай цэнтральнай гарадской бальніцы. Кабанаў трапіў туды 9 траўня пасля таго, як сам выклікаў хуткую дапамогу з-за дрэннага самаадчування. У другой палове дня 12 траўня лекары паведамілі Аляксандру Кабанаву пра станоўчы тэст на COVID-19. Сам блогер кажа, што яму дыягнаставалі правабаковую пнеўманію, а сярод сімптомаў — падвышаная тэмпература і ёсць адчуванне, што знікае пачуццё смаку.

Калі Аляксандр Кабанаў трапіў у бальніцу, ён падпісаў паперу пра правілы распарадку, дзе абавязаўся не выходзіць з палаты. Тут ён знаходзіцца адзін: у палаце ёсць халадзільнік, тэлевізар, рукамыйніца. Ежу пацыентам прыносяць адразу ў палату, а лекары прыходзяць у супрацьвіруснай экіпіроўцы.

Сяргей Пятрухін у бальніцу трапіў пасля суда, які адбыўся 11 траўня ў Брэсце, калі суддзя Дзмітрый Куроўскі прыняў рашэнне арыштаваць блогера на 15 сутак. Спачатку міліцыянты павезлі Сяргея Пятрухіна з суда ў ізалятар, нават не дачакаўшыся выкліканай хуткай дапамогі. У выніку блогер быў шпіталізаваны ў другой палове дня 11 траўня.

Кабанаў не выключае, што пасля выпіскі з бальніцы яго таксама чакае суд. Блогер распавёў, што некаторы час каля яго палаты знаходзіліся супрацоўнікі міліцыі. З чым гэта звязана, ён не ведае, а лекары яму на гэты конт нічога не тлумачаць.

## Мікалай Хадасевіч



**Беларускі спартовы журналіст выступіў за тое, каб спыніць чэмпіянат Беларусі па футболе з-за каронавіруса.**

«Камусьці захацелася пагуляць у футбол падчас эпідэміі каронавіруса. Чэмпіянат Беларусі працягваецца ва ўсіх лігах. Мы прыйшлі да той кропкі, да якой непазбежна павінны былі прыйсці. Апошнія дні паступаюць паведамленні, што "Мінск" спыніў трэніроўкі. "Арсенал" таксама мае гульца з сімптомамі. Мы знаходзімся на мяжы таго, што наш футбол усё роўна будзе пастаўлены на паўзу. Вельмі шмат людзей уцягнута ў працэс футбола. У АБФФ казалі, што як толькі будзе зафіксаваны першы выпадак, трэба будзе спыніць чэмпіянат. Пакуль толькі падазрэнні», — кажа Хадасевіч.

«Магчыма, мы не ведаем, што гулец сапраўды хварэў, калі своечасова яго ізалявалі. Адкуль нам ведаць? Хто нам афіцыйна пра гэта раскажа? Прыпыненне чэмпіянату здарыцца, калі пра гэта заявяць афіцыйна, або калі каманда захварэе і не зможа выйсці на поле. Пакуль гэты камячок толькі расце. Дай Бог, каб гэтыя падазрэнні на каронавірус не пацвердзіліся», — зазначыў адмыслоўца.

# Як Лукашэнка галасаваў за Шушкевіча

Кірыла ПАЗНЯК

**Першы сапраўдны беларускі парламент запрацаваў 30 гадоў таму. Менавіта той склад Вярхоўнага Савета пераўтварыў БССР у Беларусь і абвясціў яе незалежнай. Менавіта з таго складу парламента выйшлі дасюль самыя папулярныя беларускія палітыкі, у тым ліку два кіраўнікі нашай краіны. Паколькі цяпер Вярхоўнага Савета няма, як, па вялікім рахунку, і парламента паводле яго сутнасці і прызначэння, тагачасны дэпутацкі склад можна назваць легендарным.**


ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!
УДАРНЫ ФРОНТ
Газета заснавана 1-га лютага 1919 года
СУБОТА 10 ЛЮТАГА 1990 года
№ 17 (8116)
Цана 3 кап.
ОРГАН ШКЛОЎСКАГА РАЙКОМА КП БЕЛАРУСІ І РАЁННАГА САВЕТА НАРОДНЫХ ДЭПУТАТАЎ
ПЛЕНУМ ЦК КПСС
Насустрач выбарам
«СТАЎКІ ЗРОБЛЕНЫ...»

Шклоўская газета «Ударны фронт». Рэпартаж пра сустрэчу кандыдатаў у дэпутаты з выбаршчыкамі па Шклоўскай акрузе

Першае пасяджэнне Вярхоўнага Савета 12 склікання адбылося 15 траўня 1990 года. І пачалося з хвіліны маўчання: адзін з новаабраных дэпутатаў, генеральны дырэктар светлагорскага прадпрыемства «Хімвалакно» памёр напярэдадні сесіі. Прадстаўнікоў дырэктарату і чыноўнікаў рознага ўзроўню ажно да міністраў у складзе Вярхоўнага Савета было шмат. Адных толькі дырэктараў розных прадпрыемстваў — 35 асобаў, старшыняў калгасаў і саўгасаў — 25. А яшчэ было мноства начальнікаў розных узроўняў з кампартыі. У выніку большасць у Вярхоўным Савеце склалася наменклатурна-камуністычная. Пазней на яе грунце ўтварылася група «Беларусь», якая падтрымлівала ўрад Вячаслава Кебіча. Ён быў абраны прэм'ерміністрам якраз у першыя дні працы Вярхоўнага Савета.

### Нягледзячы на ўмовы

Усяго дэпутатамі павінны былі стаць 360 чалавек: 310 — непасрэдна праз выбары, астатнія 50 — праз квоту для грамадскіх арганізацый (таварыстваў інвалідаў, сляпых, глухіх, арганізацыі ветэранаў вайны і працы). Першы тур выбараў прайшоў 4 сакавіка, другі — праз два тыдні. Паводле яго вынікаў былі абраныя толькі 229 дэпутатаў. Паўторныя выбары прайшлі пры канцы красавіка і ў пачатку траўня. Яны спатрэбіліся, бо для перамогі ў другім туры неабходна было, як і ў першым, набраць 50% плюс адзін голас.

Вылучаць кандыдатаў у дэпутаты мелі права толькі зарэгістраваныя арганізацыі, працоўныя калектывы і сходы па месцы жыхарства. Адзінай жа дэмакратычнай арганізацыяй, якая мела рэгістрацыю, было Таварыства беларускай мовы. СМІ і прапаганда працавалі на вылучэнцаў ад кампартыі. Але ўсё-такі ў парламенце сфарміраваўся Дэмакратычны клуб з паўсотні чалавек і больш радыкальная апазіцыя БНФ з каля трох дзясяткаў чалавек. Менавіта яны і сталі прасоўвальнікамі пераменаў дзякуючы адпаведным настроям у грамадстве. Напрыклад, за тыдзень да выбараў Беларускі Народны Фронт зладзіў у Мінску 100-тысячны мітынг супраць недэмакратычнага ходу выбарчай кампаніі. Усяго да моманту пачатку дзейнасці Вярхоўнага Савета 12 склікання 6,5 тысячы чалавек паскардзіліся на парушэнні падчас першых больш-менш дэмакратычных парламенцкіх выбараў у Беларусі.

### «Ні дабрабыту, ні незалежнасці»

Асноўнымі спосабамі агітацыі апазіцыі былі мітынгі і тактыка «ад дзвярэй да дзвярэй». Ключавымі пасланнямі сталі эканамічны заняпад, прывілеі для наменклатуры і наступствы Чарнобыльскай аварыі.

Вось як пачыналася выбарчая платформа БНФ: «Наша зямля забруджана радыенуклідамі ды нітратамі, паветра атручана выкідамі прамысловых прадпрыемстваў, а вада — сцёкамі з хворых палёў і жывёлагадоўчых фермаў. Наша сістэма прамысловасці не можа наладзіць выпуску тавараў, якія б знаходзіліся на ўзроўні міжнародных патрабаванняў. І што б ні радзіла наша зямля — на прылаўках магазінаў бракуе дастатковай колькасці прадуктаў. Мы не здабылі не толькі дабрабыту — мы не здабылі і незалежнасці. Сёння мы павінны прасіць у Масквы тое, што належыць нам па праву. Чарнобыльская катастрофа высветліла наш сапраўдны стан у Савецкім Саюзе — стан паўкалоніі, якая пастаўляе "цэнтру" сельскагаспадарчыя прадукты і тавары прамысловасці, а самі мы павінны пакорліва чакаць, пакуль гэты "цэнтр" выдзеліць нам дапамогу ў Чарнобыльскім горы».

БНФ адзначаў, што ідзе на выбары «з ідэямі палітычнага і эканамічнага плюралізму, культурнага адраджэння, ідэямі дэмакратыі, свабоды і суверэнітэту Беларусі». Гаварылася і пра няроўнасць: «У кастрычніку 1989 года на 65–100% павышана зарплата ўсім наменклатурным чыноўнікам, у той час як сотні тысяч беларусаў жывуць па-за рысай беднасці». Фронтаўцы заклікалі народ адмовіць у падтрымцы прадстаўнікам наменклатуры ды іх стаўленікам, бо тыя «страцілі не толькі права на ўладу, але і на чалавечы давер».

Памятаю адну з выбарчых сустрэч каля свайго пад'езда ў мінскім мікраraёне Серабранка. У нас балатаваўся паэт Анатоль Вярцінскі, галоўным яго канкурэнтам быў кіраўнік мясцовай раённай адміністрацыі. Мне было 12 гадоў. Мае бацькі і бацькі сябра былі за Вярцінскага. Ён тады працаваў галоўным рэдактарам газеты «Літаратура і мастацтва», у якой некалькімі гадамі раней быў апублікаваны суперрэзанансны артыкул Зянона Пазняка і Яўгена Шмыгалёва «Курапаты: дарога смерці». І мы з сябрам зладзілі акцыю: узняліся на агульны балкон адначасова з паверхаў у сваім пад'ездзе і некалькі разоў выгукнулі нешта пра тое, які наменклатуршчык дрэнны чалавек. І цэлы вечар з гонарам хадзілі як удзельнікі крутога апазіцыйнага ўчынку.

Выбары сапраўды праходзілі з ажыятажам. Конкурс склаў 5 чалавек на дэпутацкі мандат. Дэпутатамі не змаглі стаць многія вядомыя асобы. Напрыклад, Павел Калаур, цяперашні кіраўнік Нацыянальнага банка, і будучы прэм'ер-міністр Беларусі Уладзімір Ярмошын.

Сесія, якая пачалася 15 траўня 1990 года, праходзіла таксама горача.

### Спікер і «задні праход»

Ужо праз тры дні пасля старту сесіі свежаспечаныя дэпутаты выбіралі спікера. Прэтэндэнтаў сярод парламентарыяў было трое. Першы — вылучэнец Кампартыі БССР, старшыня прэзідыуму папярэдняга складу Вярхоўнага Савета Мікалай Дземянцей. Той самы, як праславіўся забаўнымі афарызмамі кшталту звароту да дэпутатаў, якія стаялі ў канцы парламенцкай Авальнай залы ў чарзе да мікрафона: «Не стойце ў заднім праходзе».

Супернікамі былі прарэктар па навуковай працы Белдзяржуніверсітэта Станіслаў Шушкевіч і касманаўт Уладзімір Кавалёнак. Асноўнымі канкурэнтамі былі Дземянцей і Шушкевіч. Кавалёнка вылучыла Апазіцыя БНФ, каб адцягнуць галасы ў Дземянцея. І дэмакратам удалося даць бой наменклатурнай большасці: справа дайшла да другога туру. Але там 167 галасамі супраць 118 перамогу атрымаў і стаў спікерам усё ж такі Мікалай Дземянцей. Затое такі вынік дазволіў Станіславу Шушкевічу стаць намеснікам старшыні Вярхоўнага Савета. Праз год ён узначаліць парламент і, адпаведна, акажацца на чале незалежнай Беларусі. Кавалёнак у 1992 годзе складзе з сябе дэпутацкія паўнамоцтвы і пераедзе ў Маскву, каб узначаліць Ваенна-паветраную інжынерную акадэмію.

Цікава, што тымі днямі супраць наменклатуршчыка Дземянцея выступаў і галасаваў за кандыдатуру Шушкевіча дырэктар саўгаса «Гарадзец», дэпутат Аляксандр Лукашэнка. Ён расказваў у інтэрв'ю шклоўскай газеце «Ударны фронт» у нумары за 24 траўня 1990 года: маўляў, Дземянцей не здольны на пераўтварэнні, бо на ім «вісіць груз старых стэрэатыпаў». Што ён прыхільнік адміністрацыйна-каманднай сістэмы і прадстаўнік партыйна-савецкага апарату. Так, Лукашэнка падаваўся дэмакратам і чахвосціў наменклатуру. Увогуле, асабліваю парламента Лукашэнка назваў барацьбу дзвюх ліній: «Прадстаўнікі першай хацелі б пакінуць усё, як было раней, "жыць як набяжыць", другія рашуча выступаюць за радыкальныя пераўтварэнні». На жаль, пры кіраўніку краіны Лукашэнку з парламента знікла ўсялякая палітычная канкурэнцыя.

А вось што пісала гэтае шклоўскае выданне 10 лютага 1990 года пра Лукашэнку ў рэпартажы з сустрэчы яго ды іншых кандыдатаў з выбаршчыкамі 310-й Шклоўскай акругі: «Аддадзім належнае аратарскаму майстэрству гэтага кандыдата, чыё выступленне было даўжэй за іншых, тым болей апошнім, але ён здолеў трымаць ва ўвазе выбаршчыкаў»; «Прама заявіў: "У мяне — вясковая душа". І зноў заклікаў абараніць чалавека, які хоча працаваць»; «Рэзка асудзіў павышэнне акладаў кіруючаму апарату, прайшоўся па бюракратах і адказаў, якім сам цяпер падвяргаецца ганенням».

### Дэпутаты як міністры

Апрача выбараў спікера, жарсці віравалі падчас выбараў старшыняў парламенцкіх камісіяў. Рэч у тым, што статус старшыні камісіі быў вышэйшым за міністэрскі. Многія парламенцкія камісіі тады ўзначалілі асобы, якія з цягам часу сталі вельмі вядомымі ў краіне. Напрыклад, на чале камісіі па законнасці, пытаннях правапарадку і барацьбы са злачыннасцю стаў генерал міліцыі, будучы спікер парламенту Мечыслаў Грыб; камісіі па закандаўстве — Дзмітрый Булахаў, адзін з так званых «маладых ваўкоў», якія зрабілі з Лукашэнкі прэзідэнта; камісіі па эканамічнай рэформе, дасягненні эканамічнай самастойнасці і суверэнітэту рэспублікі (ацаніце назву) — будучы віцэ-прэм'ер і кіраўнік Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі Леанід Козік; камісію па навуцы і навукова-тэхнічным прагрэсе ўзначаліў будучы мэр Маладзечна і лідар апазіцыі пры канцы 1990-х Генадзь Карпенка; камісію па пытаннях працы, кошту, занятасці і сацыяльнай абароненасці насельніцтва — будучы міністр працы Аляксандр Сасноў; камісію па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны — народны паэт Ніл Гілевіч.

Прэса ў сярэдзіне траўня 1990 года штодня публікавала рэпартажы і фотаздымкі з Вярхоўнага Савета на тытульных палосах. Напрыклад, «Звязда» выходзіла з аптымістычнымі загалоўкамі кшталту «Верым у абнаўленне», «Зала нашага чакання». Былі і песімістычныя прагнозы. Аглядальнік апазіцыйнай газеты «Свабода», якая пачала выдавацца якраз у тым годзе, пісаў: «А якія правы наогул мае наш Вярхоўны Савет? За межы саюзных законаў яму сягаць не дазволена, а дэкларацыю пра незалежнасць ён, па ўсім відаць, не прыме».

Але гэты Вярхоўны Савет ужо 27 ліпеня 1990 года прыняў Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай ССР, напісаную апазіцыйнымі дэпутатамі з Беларускага Народнага Фронту. А яшчэ праз год яна набыла сілу Канстытуцыйнага закона. Але гэта ўжо іншая натхняльная гісторыя...

Іна СТУДЗІНСКАЯ,
Радыё Свабода

# Восем пытанняў пра Беларускую АЭС

**Пуск першага энергаблоку Беларускай АЭС адбудзецца не раней за ліпень. А вось ці патаннее электраэнергія для беларусаў, у якія краіны Беларусь будзе прадаваць энергію, якія ўмовы і сума расійскага крэдыту — адказы на гэтыя пытанні журналістаў на відэабрыфінгу Мінэнерга і Дзяржатамнагляду не прагучалі.**


Фота Радыё Свабода

**Вядома, што краіны Балтыі заявілі аб адмове купляць беларускую электраэнергію, адмовіла днямі і суседняя Украіна. Хто яе будзе купляць, намеснік міністра так і не адказаў. Паведаміў толькі, што летась экспарт вырас, зноў не назваўшы лічбаў**

### 1. Калі будзе запушчаны першы энергаблок Беларускай АЭС? Што адбываецца на пляцоўцы цяпер?

6 траўня на Беларускую АЭС у Астраўцы было дастаўлена ядзернае паліва для першага энергаблоку, паведаміла Мінэнерга.

Аднак дастаўка ядзернага паліва ніяк не паўплывае на паскарэнне тэрмінаў фізічнага пуску АЭС. Паліва пакуль праходзіць пэўную працэдуру ўваходнага кантролю, паведаміў намеснік міністра энергетыкі Беларусі Міхаіл Міхадзюк.

«Паводле графіку гатоўнасць павінна быць у ліпені. Але для нас галоўны прыярытэт — бяспека. Пакуль не будзем упэўненыя, што гатовы персанал, гатовыя ўсе збудаванні — на гэты этап не пойдзем. Першая частка этапу фізічнага пуску пачынаецца з загрузкі ядзернага паліва — з моманту загрузкі першай касеты. Спадзяёмся, гэта адбудзецца ў ліпені», — сказаў намеснік міністра энергетыкі Міхаіл Міхадзюк.

Завершаны этап «гарачай абкаткі» абсталявання рэактарнай устаноўкі першага блоку. Гэта азначае, што ў рэактар загрузілі імітатар ядзернага паліва і правялі ўвесь цыкл выпрабаванняў тэхналагічнага абсталявання.

Неабходна правесці яшчэ 306 выпрабаванняў тэхналагічных сістэм.

Што тычыцца другога энергаблоку, там вядуцца будаўнічыя працы, працы па мантажы тэхналагічнага абсталявання. Завяршылі падачу напружання дзеля ўласных патрэбаў.

### 2. У якім фармаце пройдуць грамадскія слуханні перад выдачай ліцэнзіі на эксплуатацыю першага энергаблоку АЭС?

Рашэнне будзе прымацца з улікам эпідэміялагічнай сітуацыі на момант правядзення слуханняў, паведаміла начальніца Дэпартаменту ядзернай і радыяцыйнай бяспекі Міністэрства надзвычайных сітуацый (Дзяржатамнагляду) Вольга Лугоўская.

«Палажэнне аб правядзенні грамадскіх слуханняў і іх фармат зацверджаныя пастановай ураду. Гэта сход, нарада, там рэгулюючы орган даводзіць інфармацыю, якая ляжа ў аснову прыняцця рашэння аб выдачы ліцэнзіі. Натуральна, мы хочам прытрымлівацца гэтага фармату. Але мы будзем арыентавацца на сітуацыю на момант правядзення грамадскіх слуханняў», — сказала Вольга Лугоўская.

Паводле заканадаўства, грамадскія слуханні неабходна правесці ў населеным пункце, максімальна блізка размешчаным да атамнай станцыі, — тобок у Астраўцы.

### 3. Колькі грошай пойдзе на куплю свежага ядзернага паліва?

Ядзернае паліва дастаўлена ў межах агульнага генеральнага кантракту на збудаванне БелАЭС, паведаміў намеснік міністра энергетыкі Міхаіл Міхадзюк.

«У цыкле атамных станцый ядзернае паліва ў сабекошце і выпрацоўцы электраэнергіі (з улікам яго перапрацоўкі і захавання адпрацаванага) складае парадку 20%. Што тычыцца класічных станцый на арганічным паліве, то кошт паліва даходзіць да 60–70%», — патлумачыў Міхаіл Міхадзюк, не назваўшы канкрэтных лічбаў.

### 4. Ці праўда, што ўмовы расійскага крэдыту перагледжаныя? Калі Беларусь пачне выплаты? Якая частка крэдыту выкарыстаная?

Частка інфармацыі па крэдытах — пад грыфам «для службовага карыстання», паведаміў намеснік міністра энергетыкі.

«У сувязі са ссоўваннем тэрмінаў уводу першага і другога блокаў з расійскім бокам вядзецца праца па карэктаванні крэдытнага пагаднення — і па тэрмінах, і па ўмовах крэдытнай стаўкі. Разуменне з расійскага боку ёсць. Дакументы яшчэ не падпісаныя, яны знаходзяцца ў стадыі ўзгаднення з аднаго і з другога боку», — сказаў спадар Міхадзюк.

І дадаў, што фінансаванне ажыццяўляецца ў планавым парадку, без абмежаванняў і затрымак.

Зноў не прагучала ніводнай лічбы.

### 5. Які цяпер сабекошт 1 кілават-гадзіны электраэнергіі? Ці зменшыцца ён з уводам АЭС?

На кошт 1 кілават-гадзіны ўплывае шмат фактараў: цана на прыродны газ (70%) і іншыя. Цяпер сабекошт складае каля 16 капеек за кілават-гадзіну, паведаміў Міхаіл Міхадзюк.

«Сёння вядуцца разлікі, яны ёсць і разглядаюцца адмысловай міжведамаснай камісіяй, створанай па даручэнні прэм'ер-міністра. На кошт электраэнергіі будуць уплываць многія фактары. Адзінае магу сказаць, што даражэйшай электраэнергія дакладна не стане», — запэўніў Міхадзюк, зноў жа так і не назваўшы канкрэтнай лічбы.

### 6. У якія краіны Беларусь плануе прадаваць электраэнергію?

Вядома, што краіны Балтыі заявілі аб адмове купляць беларускую электраэнергію, адмовіла днямі і суседняя Украіна.

Хто яе будзе купляць, намеснік міністра так і не адказаў. Паведаміў толькі, што летась экспарт вырас у параўнанні з 2018 годам, зноў не назваўшы лічбаў.

«У нас прадаецца электраэнергія беларускай энергасістэмы. Мы не дзелім, дзе выпрацаваная энергія — цеплавымі АЭС, ветракамі ці АЭС.

Мы разглядаем у першую чаргу ўласнага спажыўца — каб наша эканоміка стала больш канкурэнтаздольнай.

Таксама будзем прапаноўваць нашым суседзям. Няшмат пройдзе часу, і эканоміка ўсё расставіць па сваіх палічках», — так адказаў на пытанне «Свабоды» намеснік міністра энергетыкі.

### 7. Ці падрыхтаваныя ўласныя беларускія кадры для абслугоўвання АЭС?

Персанал для эксплуатацыі першага блоку АЭС цалкам падрыхтаваны, людзі атрымалі ліцэнзіі ад рэгулятара. У асноўнай сваёй масе завершаны набор персаналу і для другога блоку.

«Мы працавалі па розных кірунках. Першы — запрасілі замежных спецыялістаў (у асноўным расійскіх і ўкраінскіх, якія мелі досвед працы на атамных станцыях) на кіроўныя пасады: галоўнага інжынера і ніжэй, начальнікаў асноўных цэхаў, у першую чаргу рэактарнага цэху. Такія спецыялісты ёсць у кожнай аператыўнай змене. Прапусцілі іх праз свой вучэбна-трэніровачны цэнтр.

Другі кірунак — запрасілі спецыялістаў энергетычнага профілю з базавай адукацыяй, якія прайшлі перападрыхтоўку ў расійскіх ВНУ», — сказаў Міхадзюк.

### 8. Чаму Беларуская АЭС выклікае такую занепакоенасць суседняй Літвы? Пры канцы красавіка нават амерыканскі Forbes пісаў пра гэта

У той пазіцыі, якую заняла Літва ў адносінах да АЭС, ужываючы тэрміны «пагроза, ядзерная небяспека», акрамя палітыкі, нічога няма, — перакананы намеснік міністра энергетыкі Беларусі.

«Сёння шэраг краін ЕС абралі і прыступілі да рэалізацыі таго ж расійскага праекту, які рэалізуем мы. Таму гаварыць пра небяспеку няправільна. Тым больш, да нас не паступалі прэтэнзіі ад адмыслоўцаў з літоўскага боку, якія разумеюць пытанні ядзернай бяспекі.

Усе пытанні збольшага ад палітыкаў. Гэта ўсё палітыка. Жыццё рассудзіць і пакажа, чыя была праўда. Літоўскі бок заяўляе, што гэта брудная энергія. Але гэта самая чыстая сёння энергія з экалагічнага пункту гледжання», — перакананы Міхадзюк.

### Што варта ведаць пра БелАЭС

- Беларуская АЭС ад 2011 года ўзводзіцца пад Астраўцом, што ў Гродзенскай вобласці, у 22 кіламетрах ад мяжы з Літвой і каля 50 кіламетраў ад Вільні, а да Мінску — 125 кіламетраў.
- Запуск першага энергаблоку запланалі на пачатак 2020 года, другога — на ліпень 2020-га. Першапачаткова запуск планаваўся на 2018 год, Аляксандр Лукашэнка заяўляў, што тэрміны сарвала Расія.
- Для яе будаўніцтва выбраны праект АЭС-2006 — тыпавы расійскі праект атамнай станцыі новага пакалення з выкарыстаннем вода-вадзянога энергетычнага рэактара ВВЭР-1200. Паводле такога ж праекту ў Расіі працуюць блокі Нававаронежскай АЭС і Ленінградскай АЭС-2.
- Астравецкая АЭС узводзіцца расіянамі — дзяржаўнай кампаніяй «Росатам» — за кошт крэдыту Расіі. Беларусь пазычыла да 10 мільярдаў доляраў для фінансавання 90% кошту будаўніцтва двух энергаблокаў АЭС. Пагашэнне крэдыту пачынаецца праз 6 месяцаў з даты ўводу ў эксплуатацыю АЭС, але не пазней за 1 красавіка 2021 года. Беларусь просіць Расію падоўжыць крэдыт на 10 гадоў.
- На станцыі будуць два энергаблокі з рэактарамі ВВЭР-1200 (В-491) магутнасцю да 1200 МВт кожны. То-бок праектная магутнасць АЭС — 2,4 тысячы МВт. Калі АЭС запрацуе на поўную магутнасць, станцыя дасць 18 мільярдаў кілават-гадзін на год — палову таго, колькі цяпер спажывае Беларусь.
- Літва не раз ставіла пад сумнеў абранне для будаўніцтва АЭС астравецкай пляцоўкі. Краіна называла 10 прычынаў не будаваць БелАЭС. Літва пратэстуе супраць БелАЭС на найвышэйшым дзяржаўным узроўні, выказвае пратэсты ў міжнародных структурах. Літву падтрымлівае прэзідэнтка Эстоніі.
- Пляцоўка Астравецкай АЭС была прызнаная небяспечнай яшчэ ў 1993 годзе. Тады было знойдзена 7 прыдатных пляцовак, 15 умерана прыдатных і 6 непрыдатных. Астравецкая пляцоўка трапіла ў лік апошніх.
- Улады і чыноўнікі Беларусі няспешна рэагуюць на паведамленні пра інцыдэнты на будаўніцтве ўласнай атамнай станцыі. Звычайна пра здарэнні на БелАЭС афіцыйна расказваюць пасля таго, як звесткі пра іх з'яўляюцца ў СМІ — так, пра падзенне корпуса рэактара расказалі толькі пасля міжнароднага ціску. Урэшце корпус, які ўпаў, замянілі (расіяне збіраюцца выкарыстаць яго на іншай АЭС). Новы выпадкова стукнулі аб слуп, але пашкоджанняў не выявілі, вырашылі не мяняць корпус другі раз.
- Адпрацаванае ядзернае паліва з БелАЭС застанецца ў Беларусі. Экалагі сцвярджаюць, што Беларусь выбірае самы дарагі і небяспечны спосаб захоўваць адпрацаванае паліва з АЭС.

# «Дыскусія» як зброя

## Расійскія «дыскусійныя клубы» — праваднікі «русского мира»

Дзяніс ІВАШЫН

**У гэтым расследаванні мы падрабязна раскрываем, якім чынам Расія выкарыстоўвае прадстаўнікоў журналісцкага асяроддзя, сеціва так званых дыскусійных клубаў «Импрессум», «Формат-А3», «Сковорода» для вядзення прапаганды, здзяйснення інфармацыйна-псіхалагічных аперацый і аперацый уплыву ў бліжэйшых з ёю суседніх краінах. Створаная і выкшталцаваная сістэма медыяструктураў, падпарадкаваных адзінай задуме, мэтам і задачам, сведчыць пра вядзенне Расійскай Федэрацыяй паўнавартаснай інфармацыйнай вайны супраць Украіны, краінаў Балтыі, Малдовы, а таксама Беларусі — на сёння ключавога аб'екту ўздзеяння РФ.**

Яшчэ філосаф Жан-Жак Русо называў масмедыя «чацвёртай уладай». З таго часу мінулі больш за два стагоддзі, і з друкаванай прэсы масмедыя ператварыліся ў глабальныя інфармацыйныя сістэмы, якія ахопліваюць транснацыянальныя аўдыторыі. Праз кардынальнае змяненне саміх каналаў камунікацыі ўплыў СМІ на насельніцтва асобна ўзятай краіны і чалавецтва агулам стаўся велізарным. Аднак разам з гэтым адбылося і эпахальнае развіццё сродкаў прапагандысцкага ўздзеяння, якое на сёння не мае межаў. Чалавек застаецца нязменным, а тэхнічныя магчымасці прапаганды, якая набывае ўсё больш мяккія і незаўважныя формы ўздзеяння, увесь час прагрэсуюць.

У 2007 годзе падчас знакамітай Мюнхенскай прамовы, Пуцін задэкляраваў абранне Расійскай Федэрацыяй новага асаблівага шляху, які палягаў у актывізацыі неаімперскай палітыкі. Пасля гэтай падзеі расійская імперыякратыя з новай сілай распачала правядзенне агрэсіўнай дзейнасці ў межах рэалізацыі стратэгіі «soft power» у суседніх з ёй дзяржавах. Аб'ектам сталі перадусім краіны, якія раней уваходзілі ў Савецкі Саюз і якія Расія лічыць непасрэднай сферай свайго ўплыву і жыццёвых інтарэсаў. У гэтых краінах «блізкага замежжа», паводле расійскай тэрміналогіі, расійская «чацвёртая ўлада» пачала ствараць прапагандысцкія медыяклубы, асноўнымі задачамі якіх стала кансервацыя значнай часткі грамадства ў расійскай культурніцкай, гуманітарнай і інфармацыйнай прасторы, падтрыманне шчыльнай сувязі і каардынацыя дзеянняў з прарасійскімі сіламі, а таксама акцэптацыя станоўчага вобразу Расіі, што ўсё разам і вызначае стратэгію «мяккай сілы» РФ.

### Сеціва медыяклубаў — праваднікоў расійскіх аперацый уплыву

Стварэнне сеціва так званых дыскусійных медыяструктураў пачалося з клубу «Импрессум», які быў заснаваны ў Эстоніі ў 2008 годзе. У наступным, 2009 годзе, у Расіі быў створаны ключавы на сёння клуб сеціва — «Формат-А3», — які распачаў сваю дзейнасць у Малдове, а з 2010 года пачаў праводзіць мерапрыемствы і ва ўкраінскім Крыме. Таксама ў 2010 годзе, пасля перамогі на прэзідэнцкіх выбарах прарасійскага кандыдата Віктара Януковіча, ужо непасрэдна ва ўкраінскай сталіцы з'явіўся новы структурны элемент сеціва — клуб «Сковорода». У 2011 і 2012 гадах «Формат-А3» пашырыў сваю актыўнасць у краінах Балтыі — Латвіі і Літве. З 2015 года мэтай расійскіх аперацый уплыву пад прыкрыццём клубу «Формат-А3» стала Беларусь, якая цягам наступных гадоў ператварылася ў асноўны аб'ект уздзеяння. За пяць гадоў свайго функцыянавання ў Беларусі клуб паспеў правесці амаль 90 (!) мерапрыемстваў, на якіх прысутнічалі тысячы чалавек, заангажаваў у сваю дзейнасць шматлікіх прадстаўнікоў дзяржаўнага журналісцкага асяроддзя на нацыянальным і рэгіянальным узроўні, атрымаў доступ да студэнцкіх аўдыторыяў у Мінску і Гродна, заручыўся лаяльнасцю і падтрымкай дзяржаўнага ідэалагічнага апарату Беларусі.

Галоўным партнёрам сеціва з'яўляецца чарнасоценны «Изборский клуб», заснаваны ў верасні 2012 года ў Ізборску Пскоўскай вобласці. Гэта аб'яднанне расійскіх грамадскіх дзеячаў і экспертаў, якія маюць пераважна антыліберальныя погляды і з'яўляюцца ідэолагамі расійскага неаімперыялізму, а таксама зацятымі прадстаўнікамі нацыянальнага геастратэгічнага праекту РФ, які артыкулюе ключавую пазіцыю ў парадыгме «русского мира», — еўразійства. Для рэалізацыі гэтага праекту Расіі неабходныя Украіна і Беларусь, Малдова і краіны Балтыі, без якіх яна ўяўляе з сябе больш азіяцкую дзяржаву.

Старшыня і асноўны ідэолаг клубу — галоўны рэдактар шавіністычнай расійскай газеты «Завтра» Аляксандр Праханаў. Ядро клубу складаецца з людзей, далучаных да Цэнтру (інстытуту) дынамічнага кансерватызму, якім кіруе Віталь Авяр'янаў — адзін з укладальнікаў і рэдактараў так званай «Русской Доктрины», якую яе стваральнікі называюць асноўным праграмным дакументам «русского мира». Значная частка сталых чальцоў «Изборского клуба» непасрэдна ўдзельнічае ў якасці спікераў на мерапрыемствах усіх медыяклубаў сеціва.

У беларускай інфармацыйнай прасторы дзейнасць гэтых клубаў — перадусім, «Формат-А3», — у аспекце істотных пагрозаў для нацыянальнай бяспекі краіны дагэтуль не асвятлялася. Мы паспрабуем запоўніць такі прабел, паказаць глыбіню і маштаб пранікнення гэтых медыйных структураў у грамадскае жыццё краінаў Балтыі, Малдовы, Украіны і Беларусі. Раскрыць іх бенефіцыяраў, надаць звесткі пра іх актывы і праекты. Падобны комплексны і падрабязны аналіз дзейнасці сеціва расійскіх медыяклубаў у кантэксце рэалізацыі РФ аперацый уплыву на міжнародным узроўні здзяйсняецца ўпершыню.

Цяпер, падчас пандэміі COVID-19, дзейнасць расійскіх прапагандысцкіх структураў, у тым ліку ў Беларусі, знаходзіцца ў пэўным стазісе, яны пазбаўленыя сваіх вялікіх аўдыторыяў, перадусім у журналісцкім і студэнцкім асяроддзі. Мы маем унікальны шанец перад будучым узнаўленнем іх дзейнасці вывучыць і ўзяць на ўзбраенне інфармацыю ў дачыненні да гэтых інструментаў расійскага інфармацыйнага ўздзеяння.

### Кіраўніцтва сродкамі расійскіх аперацый уплыву і прапаганды

Кіруе міжнароднымі дыскусійнымі медыяклубамі «Импрессум» і «Формат-А3» адна асоба — Галіна Сапожнікава.



**Галіна Сапожнікава.** Фота klops.ru

Галіна Міхайлаўна Сапожнікава нарадзілася ў Іжэўску ў ліпені 1964 года. У 1988 годзе скончыла журфак Ленінградскага дзяржаўнага ўніверсітэта, была размеркаваная на працу ў газету «Молодежь Эстонии» (рускамоўны друкаваны орган ВЛКСМ Эстонскай ССР). Праз год яе ўзялі ў штат выдання «Комсомольская правда» ўласным карэспандэнтам па Эстоніі, Фінляндыі і Швецыі. З 1999 года працуе ў штаце «КП» у Маскве. Узнагароджаная дыпломам Урадавай камісіі Расіі па справах суайчыннікаў за мяжой за асаблівы ўнёсак у інфармацыйную падтрымку расійскіх суайчыннікаў (2010), мае падзяку прэзідэнта Расіі «За асаблівы ўнёсак у развіццё айчыннай журналістыкі» (2011).



**Кіраўнікі клуба «Импрессум» Ігар Цяцерын і Галіна Сапожнікава.** Фота kp.md

Лаўрэат шматлікіх расійскіх журналісцкіх прэмій, у тым ліку так званай літаратурна-медыйнай прэміі імя Алеся Бузіны (2016), лаўрэатамі якой з'яўляюцца такія адыёзныя постаці, як рэалізатар «Русской Весны» на Данбасе Павел Губараў, антыўкраінскі блогер Анатоль Шарый, памагатыя расійскіх акупантаў спявак Іосіф Кабзон, прапагандыст Кірыл Вышынскі і іншыя.

Галіна Сапожнікава — аўтар шматлікіх прапагандысцкіх матэрыялаў, скіраваных перадусім супраць Украіны, краін Балтыі, Польшчы. Да лістапада 2018 года дастаткова актыўна публікавалася на (пра)расійскім рэсурсе IMHOclub. Таксама супрацоўнічала і з прапагандысцкім рэсурсам «Sputnik». Яна адкрыта ўслаўляе расійскую акупацыю Крыму, які наведала ў 2017 годзе.

### Медыяклуб «Импрессум»

Першым структурным элементам сеціва з'яўляецца медыяклуб «Импрессум» (MTÜ Impressum), заснаваны ў Таліне 28 кастрычніка 2008 года, роўна праз два з паловаю месяцы пасля сканчэння актыўнай фазы расійскай ваеннай агрэсіі ў грузінскім рэгіёне Самачабла. Паводле дадзеных Службы ўнутранай бяспекі Эстоніі (Kaitsepolitseiamet, КаПо), гэты медыяклуб быў адмыслова створаны, каб стаць правадніком для пашырэння ў Эстоніі неабходных тэмаў і наратываў у кантэксце рэалізацыі расійскіх аперацый уплыву.

Прадстаўнікі спецслужбы перакананыя: з самага пачатку сваёй дзейнасці клуб арганізоўвае рэгулярныя антыэстонскія прапагандысцкія мерапрыемствы. Перадусім гэта правядзенне публічных сустрэчаў, круглых сталоў, майстар-класаў, разнастайных прэзентацый з удзелам спікераў — расійскіх лідараў грамадскага меркавання, дзеячаў культуры, навукі, бізнесу, палітыкі. Паказальна, што часта гэтым расійскім выступоўцам спецслужбы Эстоніі забараняюць знаходзіцца на тэрыторыі краіны, юрыдычна ім надаючы статус «persona non grata» (1, 2). На мерапрыемствах прысутнічаюць, як правіла, актывісты (пра)расійскіх арганізацый, перадусім «Ночного дозора» і журналісты рускамоўных медыярэсурсаў.

Кіруюць клубам мясцовы бізнесовец, выдавец і галоўны рэдактар «"Комсомольской правды" в Северной Европе» Ігар Цяцерын і Галіна Сапожнікава. Асноўная дзейнасць (як гэтай, так і іншых камунікатыўных пляцовак) — правядзенне публічных сустрэчаў з вядомымі расійскімі медыйнымі персонамі і грамадскімі дзеячамі, тэмы выступаў якіх звычайна цалкам супадаюць з наратывамі расійскай прапаганды.

КаПо звязвае клуб «Импрессум» непасрэдна са Службай знешняй выведкі РФ (СЗВ). Апроч гэтага, камісар КаПо Андрэс Кахар (Andres Kahar) у дадатку да газеты Eesti Paevaleht — Riigi Kaitse (Дзяржабарона) падаў інфармацыю, што асноўныя мерапрыемствы «Импрессум» праводзіць Сапожнікава, якая мае шчыльныя сувязі з мясцовымі расійскімі экстрэмістамі, пераважна з групоўкі «Ночной дозор», і актывістамі кангламерату арганізацый «расійскіх суайчыннікаў».




**Падчас аднаго з мерапрыемстваў медыяклубу «Импрессум» у Таліне.**
Фота sputnik-news.ee



**Масавыя беспарадкі ў Таліне, якія суправаджаліся пагромам і марадзёрствам, справакаваныя радыкаламі групоўкі «Ночной дозор» у красавіку 2007 года падчас пераносу манументу так званага «Бронзавага жаўнера» на Вайсковы цвінтар**

Амерыканскі пісьменнік і журналіст Піт Эрлі (Pete Earley) у сваёй кнізе «Comrade J — the untold secrets of Russia's master spy in America after the end of the Cold War» («Таварыш Дж. — невырашаныя таямніцы галоўнага расійскага шпіёна ў Амерыцы пасля заканчэння Халоднай вайны») падае сведчанні Сяргея Траццякова — афіцэра СЗВ РФ, які ў 2000 годзе перайшоў на бок ЗША. Паводле прызнанняў гэтага перабежніка, у 1990-х гадах у якасці карэспандэнтаў выдання «Комсомольская правда» за мяжой працавалі больш за дзесяць асобаў, з якіх толькі адзін не атрымліваў заробак у СЗВ. Гэты, адзін з асноўных расійскіх органаў знешняй выведкі, можа выкарыстоўваць агентурнае сеціва з прадстаўнікоў журналісцкага асяроддзя, каб атрымаць доступ да важных асобаў, а таксама садзейнічаць правядзенню супраць краіны прызначэння расійскай інфармацыйнай вайны.

Яшчэ раз асабліва зазначым, што Галіна Сапожнікава працавала ў Эстоніі ўласным карэспандэнтам «Комсомольской правды» з 1989 па 1999 гады.

Сузаснавальніку клубу «Импрессум» Ігару Цяцерыну належыць выдавецкая кампанія SKP Media, якае выдавала газету «"Комсомольская правда" в Северной Европе» (чытацкая аўдыторыя ў Эстоніі, Латвіі і Фінляндыі), з абаротам больш за 200 тысяч еўра ў 2018 годзе. Выдавецкі дом SKP Media быў створаны ў 2003 годзе, у яго склад уваходзіла таксама аб'яднанне «Российская книга». У сакавіку 2018 года ўласнік ухваліў рашэнне пра продаж сваёй часткі ў газеце «"КП" в Северной Европе». Мае Цяцерын таксама і супольныя з Галінай Сапожнікавай актывы — кампаніі Baltinpress і Masterclass.

Характэрна, што эстонскі журналіст і публіцыст Алег Самародній (колішні шэф-рэдактар "КП" в Северной Европе»), які выкрывае дэструктыўную дзейнасць прарасійскіх сіл, у сваёй кнізе «Бремя полуверок» падае сведчанні, што Ігар Цяцерын напрыканцы 1980-х гадоў разам з Уладзімірам Ілляшэвічам пісалі выкрывальныя і скандальныя артыкулы пра дэпартацыю з Эстоніі, якія публікаваліся ў тагачаснай савецкай прэсе. Паводле дадзеных КаПо, Уладзімір Ілляшэвіч з красавіка 1983 па сакавік 1988 гадоў з'яўляўся аператыўным супрацоўнікам І аддзелу (выведка) КДБ Эстонскай ССР. Паводле выдання Postimees, пад прыкрыццём журналісцкай працы ў савецкай інфармацыйнай агенцыі АПН ён быў накіраваны ў Фінляндыю, дзе працаваў да канца 1991 года.



**Уладзімір Ілляшэвіч у прэс-цэнтры эстонскай філіі расійскага прапагандысцкага выдання Sputnik.** Фота sputnik-news.ee

Напачатку 1990-х Ілляшэвіч супрацоўнічаў з газетай «Молодежь Эстонии», а затым быў галоўным рэдактарам штотыднёвіка «Русский Телеграф». Пасля стварэння клубу «Импрессум» дзейнасць своеасаблівага тандэму Цяцерына і Ілляшэвіча значна актывізавалася. Увесну 2009 года яны спрычыніліся да пашырэння кнігі на эстонскай мове «Депортации в Эстонии» (эст. — Deporteerimised Eestis: kuidas see tegelikult toimus), у якой кіраўнік расійскага фонду «Гістарычная памяць» Аляксандр Дзюкаў (яго шмат хто ў акадэмічных колах называе крамлёўскім рэвізіяністам і фальсіфікатарам гісторыі), спрабуе маралізаваць і апраўдаць масавыя савецкія дэпартацыі жыхароў Эстоніі ў Сібір.

Друкаванне гэтай кнігі ў Эстоніі было пракаватыўна прымеркаванае да 60-й гадавіны з моманту масавай дэпартацыі эстонцаў. Кніга пачабыла свет дзякуючы выдавецкай кампаніі Tarbeinfo, чальцом праўлення якой з'яўляецца Уладзімір Ілляшэвіч. Прэзентацыю гэтага прадукту расійскай прапаганды ў Таліне на базе клубу «Импрессум» арганізавалі непасрэдна Ігар Цяцерын і Галіна Сапожнікава.

Для ўсіх дыскусійных клубаў, афіляваных з Расіяй, характэрнай асаблівасцю з'яўляецца запрашэнне на свае мерапрыемствы мясцовых вядомых людзей і лідараў грамадскага меркавання, якія могуць даць экспертную ацэнку падчас абмеркаванняў. Праз выкарыстанне іх рэпутацыі і ўплыву адбываецца спроба стварэння ілюзіі пэўнай бесстароннасці гэтых мерапрыемстваў, а таксама акцэптацыя пашыраных на іх меркаванняў і ідэй расійскай прапаганды. На першы погляд, гэтыя сустрэчы не з'яўляюцца правакацыйнымі, аднак у выніку паглыбленага аналізу вынікае, што іх галоўная мэта — правядзенне доўгатэрміновых і паслядоўных інфармацыйных і псіхалагічных аперацый РФ, мэты і задачы якіх таргетна абіраюцца для кожнай краіны прызначэння.

У Эстоніі, Латвіі і Літве з дапамогай гэтых мерапрыемстваў пашыраюцца перадусім тры асноўныя расійскія наратывы — абвінавачванне прадстаўнікоў нацыянальнай эліты ў прыхільнасці да нацызму; пашырэнне дэзінфармацыі пра дыскрымінацыю рускамоўнага насельніцтва і нібыта абавязковае прымушэнне яго да пераходу на нацыянальную мову навучання ў адукацыйных установах; навязванне меркавання пра failed state (няспраўджаная дзяржава) краінаў Балтыі, якія «з самых паспяховых у Савецкім Саюзе сталіся адными з бяднейшых у Еўрасаюзе».

На тэрыторыі Эстоніі інфармацыйную падтрымку мерапрыемстваў клубу «Импрессум» надавалі перадусім такія медыя: ПБК, «"КП" в Северной Европе», «МК-Эстония», «Sputnik Эстония», «День за днем», «Радио 4 Эстония», «Русский портал», «Агенство SKP News», delfi.ee, dv.ee, postimees.ee, stolitsa.ee, linnaleht.ee, mnenie.ee, err.ee, baltnews.ee і іншыя.

Як бачым, для аперацый уплыву Расіі ў краіне NATO Эстоніі сфармаваны выкшталцаваны і дасканалы механізм іх рэалізацыі — ад стварэння медыйнага прадукту да яго інфармацыйнай падтрымкі і пашырэння.



**Падчас прэзентацыі кнігі Дзюкава, арганізаванай клубам «Импрессум» у Таліне.** Фота impressum-club.eu

Дзейнасць Галіны Сапожнікавай у Эстоніі не абмяжоўваецца толькі арганізацыяй працы клубу «Импрессум». Яна ствярае і пашырае ў гэтай краіне таксама ўласныя інфармацыйныя прадукты. Сапожнікава з'яўляецца аўтарам кнігі «Арнольд Мери: последний эстонский герой», надрукаванай у 2009 годзе выдавецтвам Ігара Цяцерына SKP Media.

Гэты інфармацыйны прадукт можна ўпэўнена разглядаць у кантэксце вядзення Расіяй інфармацыйнай вайны супраць Эстоніі. Яшчэ ў 2007 годзе эстонская пракуратура накіравала ў суд крымінальную справу, у якой Арнольду Меры быў інкрымінаваны ўдзел у генацыдзе мірнага насельніцтва Эстоніі. Як першы сакратар ЦК камсамолу Эстонскай ССР ён каардынаваў і кіраваў працэсам дэпартацыі эстонцаў з выспы Хіюмаа ў Сібір у 1949 годзе. Памёр Меры, так і не дачакаўшыся выраку суда.

Паказальна, што ўсе буйныя залы ў Таліне адмовілі ў прадстаўленні сваіх пляцовак для правядзення прэзентацыі прапагандысцкага выдання. У выніку месцам яе правядзення было лакалізаванае выключна расійскай тэрыторыяй памяшканне Амбасады РФ у Эстоніі. Пазней за гэтую кнігу Сапожнікава атрымала ўзнагароду ад Федэральнай агенцыі па друку і масавых камунікацыях Расіі.

Кампанія «SKP Media» Цяцерына таксама выдала зборнік расійскай ваеннай прапаганды «Анатомия маленькой кавказской войны» пра агрэсію РФ супраць Грузіі ў 2008 годзе, і яшчэ адзін зборнік «Некороткая память» у 2009 годзе. У апошняй найноўшая гісторыя Эстоніі пададзеная праз прызму ідэалогіі «русского мира».

## Медыяклуб «Фармат-А3»

У ліпені 2009 года ў Маскве з'яўляецца другі дыскусійны медыяклуб сеціва «Фармат-А3». Стварылі яго журналісты аднаго з асноўных рупараў расійскай прапаганды — дзяржаўнага тэлеканалу «Россия» і найбуйнейшай расійскай штотыднёвай газеты «Комсомольская правда» («КП»). Апошняя ўваходзіць у аднайменны выдавецкі дом, які намінальна кантралюе расійскі медыямагнат і нафтатрэйдар Рыгор Бярозкін, а паводле інфармацыі пэўных крыніцаў, яго курыруюць людзі з Адміністрацыі прэзідэнта РФ.

Гэты клуб дастаткова працяглы час дзейнічае на тэрыторыі Беларусі, аднак да гэтага часу яго дзейнасць заставалася па-за ўвагай грамадзянскай супольнасці. Але яго дзейнасць павінна быць аб'ектам для пільнай увагі не толькі беларускага грамадства, але і ўсяго сектару нацыянальнай бяспекі Беларусі.

Кіраўніком медыяклубу «Фармат-А3», як мы ўжо зазначалі раней, з'яўляецца таксама Галіна Сапожнікава. У сваёй дзейнасці ён выкарыстоўвае фармат, ідэнтычны клубу «Импрессум». Характэрна, што сустракаецца яшчэ адзін варыянт напісання назвы клубу — «Формат А-3» — нават арганізатары ў апісанні дзейнасці, мэтаў і задачаў свайго клубу дапускаюць варыятыўнасць падачы яго найменя.

Першым аб'ектам для гэтага клубу была Малдова, у сталіцы якой Кішынёве да канца 2009 года правялі два першыя мерапрыемствы. Выканаўчым дырэктарам малдоўскага прадстаўніцтва «Фармат-А3» з'яўляецца Ірына Іванчанка, журналістка выдання «"Комсомольская правда" в Молдове». Высветлена, што Іванчанка ачольвае створаную ў снежні 2015 года кішынёўскую грамадскую арганізацыю «Dialogum» (Asociaţia Obştească «Dialogum»). Менавіта гэтая арганізацыя фігуруе ў якасці партнёрскай для «Фармат-А3» у межах правядзення сустрэчаў клубу ў Малдове.



**Кіраўніца малдоўскай філіі медыяклубу «Фармат-А3» Ірына Іванчанка**

ГА «Dialogum» уваходзіць у так званы «Кординационный совет российских соотечественников» (КСРС) у Малдове. Падобны кангламерат арганізацый расійскіх суайчыннікаў (КСОРС) актыўна дзейнічае і ў Беларусі. Расія фармуе сецівы з (пра) расійскіх арганізацый ва ўсіх постсавецкіх дзяржавах — у тым ліку і для эфектыўнага правядзення аперацый уплыву.

Адным з першых мерапрыемстваў клубу «Фармат-А3» сталася правядзенне ў лістападзе 2009 года сустрэчы ў Кішынёве прадстаўнікоў малдоўскай медыясферы з расійскім журналістам і пісьменнікам Андрэем Канстанцінавым. Ужо ў лістападзе таго ж году клуб правёў яшчэ адну сустрэчу ў Малдове, гэтым разам з дырэктарам Інстытута глабалізацыі і сталым чальцом «Изборского клуба» Міхаілам Дзялягіным.

У чэрвені 2013 года медыяклуб «Фармат-А3» садзейнічаў правядзенню ў сталіцы непрызнанага ПМР Тыраспалі выязнога пасяджэння «Изборского клуба», на якім прысутнічалі Аляксандр Праханаў, Аляксандр Дугін, Андрэй Кабякоў. У мерапрыемстве ўдзельнічаў таксама Канстанцін Затулін — кіраўнік Інстытута краін СНД і адзін з архітэктараў «Русской Весны».

У інфармацыйнай падтрымцы і асвятленні мерапрыемстваў клубу ў Малдове былі зафіксаваныя перадусім такія медыя: «Кишиневский Обозреватель», ІА «Новости-Молдова», газета «Flux», «"КП" в Молдове», «"Аргументы и Факты" в Молдове», тэлекампанія NIT, газета «Capitala-Столица», «Sputnik Молдова», а на тэрыторыі так званай ПМР: ІА «Новый регион-Приднестровье», ТВ ПМР, «Радио Приднестровья» і іншыя.

Гэта першая частка расследавання. У другой мы раскрыем удзел сеціва расійскіх медыяклубаў у аперацыях уплыву Расіі ва Украіне, якія сталіся своеасаблівым пралогам да пачатку ваеннай фазы акупацыі ўкраінскай тэрыторыі, раскрыем падрыўную дзейнасць гэтых арганізацый у Латвіі і Літве і распачнём фундаментальны аналіз дзейнасці «Фармат-А3» у Беларусі.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### АЗЕРБАЙДЖАН. Ствараецца новая дзяржава?

Бакінскае інфармацыйнае агенцтва Turan выступіла з сенсацыйнай навінай. Бліжэйшым часам можа быць абвешчана пра стварэнне ўраду рэспублікі «Заходні Азербайджан (Ірэван) у выгнанні». Па словах аўтараў праекту, «спачатку будзе створаны Нацыянальны савет рэспублікі, затым пройдуць парламенцкія выбары, і, нарэшце, будзе сфарміраваны ўрад у выгнанні».

Галоўная мэта стваральнікаў псеўдадзяржавы — вярнуць усе гістарычныя зямлі, уключаючы армянскі Ерэван, а таксама некаторыя тэрыторыі Турцыі і Ірана. У прынцыпе, усё гэта можна разглядаць праз прызму жартаў або азербайджанска-армянскага канфлікту. Ён доўжыцца ўжо амаль 30 гадоў, у тым ліку і ў інфармацыйнай прасторы.

Аднак некаторыя эксперты ў кантэксце апошніх падзей заклікаюць турбавацца не Ерэван, а Тэгеран. З улікам цяперашняга канфрантацыйнага стану адносін паміж Вашынгтонам і Тэгеранам лагічна дапусціць разыгрыванне Злучанымі Штатамі азербайджанскай карты ў Іране. Гаворка пра тое, каб шляхам падтрымкі мясцовай азербайджанскай камуны дамагчыся федэралізацыі краіны, паслабіўшы яе геапалітычную вагу.

Так ці інакш, стварэнне новай дзяржавы — гэта не гульня. Як піша каўказская прэса, «падобна, што наперадзе нас чакае каскад сур'ёзных падзей, якія ахопяць Блізкі Усход».

**Паводле азербайджанскай прэсы**

### ПОЛЬШЧА. Германія не капітулявала?

Да такой незвычайнай высновы прыйшлі ў польскім выданні Salon24, звярнуўшы ўвагу на юрыдычныя аспекты падзей, што адбываліся 75 гадоў таму. Галоўны сюрпрыз заключаецца ў тым, што дакументы пра поўную капітуляцыю падпісала кіраўніцтва Вермахта, а не афіцыйныя дзяржаўныя органы Германіі. Больш за тое, як высвятляецца, асобныя воінскія германскія фарміраванні — напрыклад, флот або авіяцыя — капітулявалі аўтаномна ад Вермахту. Такім чынам, фармальна, калі верыць польскаму выданню, Трэці Рэйх нікуды не знікаў і працягвае сваё існаванне да гэтага часу. У гэтым плане таксама існуе прававая база для патрабаванняў перагляду пунктаў Патсдамскай дамовы, згодна з якой частка зямель Германіі была перададзеная суседнім краінам (Польшчы і Расіі як дзяржаве — спадчынніку СССР). На думку аўтара матэрыялу, згаданыя краіны і, магчыма, Літва, якая саступіла немцам Клайпеду ў 1938 годзе, павінны апeратыўна патрабаваць ад Берліна афіцыйнага юрыдычнага прызнання неіснавання Трэцяга Рэйху. Інакш у выпадку прыходу ў ФРГ да ўлады правых сіл заклікі да перагляду Патсдаму абавязкова прагучаць.

**Паводле польскай прэсы**

### РАСІЯ. Рашэнні анлайн-з'езду партыі — у жыццё!

Ва ўмовах каранціну палітыкі ва ўсім свеце спрабуюць наладзіць працу ў інтэрнэт-фармаце. Якасным прарывам у гэтай галіне мог стаць першы ў гісторыі анлайн-з'езд палітычнай партыі. Гаворка пра расійскую прадпрымальніцкую «Партыю росту», якая планавала сабрацца на форум яшчэ 21 сакавіка. Напярэдадні рашэннем федэральнай палітрады партыі з'езд быў адменены з-за эпідэміі. Пазней узнікла ідэя правесці партыйны курултай у інтэрнэце. Для мерапрыемства нават была распрацаваная электронная сістэма галасавання на аснове тэхналогіі Blockchain. З яе дапамогай можна было б зрабіць таемнае галасаванне. Аднак у выніку Міністэрства юстыцыі адмовіла ў правядзенні падобнага з'езду. Адмова матывуецца тым, што ў статуце партыі адсутнічаюць палажэнні, якія рэгулююць правядзенне з'езду «ў дыстанцыйным фармаце». Зрэшты, забарона гэтага з'езду анлайн не азначае, што на ідэі партыйных анлайн-з'ездаў пастаўлены крыж. Відавочна, што калі партыі праз каранцін не будуць праводзіць справаздачна-выбарных мерапрыемстваў, яны страцяць легітымнасць, паступова паралізуючы ўвесь палітычны працэс. Хутчэй за ўсё, нейкія папраўкі наконт дазволу партыйных анлайн-з'ездаў будуць прымаца.

**Паводле расійскай прэсы**

### ЗША. Маскі як падстава для вайны

Заакіянская прэса б'е ў званы. Амерыканская нацыя, якая і так палярызаваная па многіх тэмах, імкліва дзеліцца на прыхільнікаў рэкамендацый медыкаў насіць маскі і іх праціўнікаў. Як правіла, маскі носяць прыхільнікі прагрэсіўных поглядаў, дэманструючы тым самым сур'ёзнае стаўленне да пагрозы пандэміі. Іх апаненты-кансерватары разглядаюць маскі як «сімвал празмернай рэакцыі на вірус», і таму адмаўляюцца насіць іх нават у месцах, дзе шмат людзей. Яшчэ далей ідуць правадыры правых партый, для якіх маскі — гэта «змова супраць народа» і «татэм кантролю». Пры гэтым усё часцей маскі выклікаюць адкрытую грамадзянскую канфрантацыю. Напрыклад, у Оклендзе рабочыя адной з фірмаў узнялі страйк супраць нашэння масак. Пішуць, што ў бедных кварталах, дзе шмат прыхільнікаў кансерватараў, чалавек з маскай успрымаецца як прадстаўнік багатай эліты, што робіць яго патэнцыйнай ахвярай злачынцаў. На думку каментатараў, тэма масак імкліва становіцца яшчэ адным прадметам культурнай вайны ліберальнай і кансерватыўнай Амерыкі, якая рана ці позна можа раскалоць краіну.

**Паводле амерыканскай прэсы**




Фота www.deutschlandfunkkultur.de

# Свабодная Рэспубліка Венланд

Алег НОВІКАЎ

**Спаўняецца 40 гадоў самай буйной акцыі праціўнікаў «мірнага атаму», у межах якой у траўні 1980 года яны стварылі ледзь не асобную міні-дзяржаву.**

На самай справе, гэта гісторыя пачалася амаль на дзесяць гадоў раней, калі федэральны ўрад ФРГ пачаў шукаць месца для сметніку радыеактыўных адкідаў. У 1977 годзе чыноўнікі і спецыялісты зрабілі выбар на карысць мясцовасці Гарлебен, што ў Ніжняй Саксоніі. Практычна сінхронна тутэйшыя сяляне пачалі ствараць ініцыятывы супраць будаўніцтва сметніка, займеўшы падтрымку вядучых экалагічных арганізацый па ўсёй краіне. На заклік эколагаў на будоўлю пачалі рэгулярна прыязджаць пратэстоўцы. З кожным разам іх станавілася ўсё больш.

Адначасова ажыццяўляліся спробы захопу пляцоўкі пад магільнік. Спачатку ахова і паліцыя лёгка выцясняляі нешматлікіх «акупантаў». Аднак 3 траўня 1980 года расклад сіл на атамным фронце змяніўся. На дэманстрацыю ў Гарлебен прыехалі каля пяці тысяч чалавек. Праменад маніфестантаў скончыўся захопам зоны, дзе планавалася будоўля. Пасля таго, як стыхійна было прынятае рашэнне застацца на месцы, пачалося будаўніцтва пасёлку пратэстоўцаў.

Акрамя намётаў і імправізаваных дамкоў, былі хутка пабудаваныя шматлікія грамадскія аб'екты — кухня, царква, медычны цэнтр, прыбіральні, цырульня і нават лазня з гарачай вадой. Вада запампоўвалася праз глыбокі калодзеж з ветранай турбінай і награвалася з дапамогай сонечнай сістэмы. Найбольш вялікім будынкам у лагеры быў так званы «Дом сяброўства», які быў здольны змясціць каля 400 чалавек. Будавалі дом па праекце студэнтаў архітэктурнага ВНУ з Гамбургу. Тыя пралічылі нават варыянт аблогі будынка паліцыяй. У такім выпадку абаронцы ў колькасці да ста чалавек маглі заняць абарону на даху.

Пры гэтым пачаўся пошук альтэрнатыўных формаў сацыяльнай арганізацыі. Гэтаму, безумоўна, спрыялі каштоўнасці папулярнай на той час субкультуры хіпі. Каля 500 пастаянных «акупантаў» спрабавалі арганізаваць сваё жыццё на аснове нізавой дэмакратыі. Уся ўлада ў лагеры належала агульнаму форуму. Ён абіраў раду спікераў, якія вялі пленарныя сходы па канкрэтных пытаннях.

Ідэя супрацьпастаўлення сістэме лагічна натхніла эколагаў абвясціць свой лагер асобнай дзяржавай — Свабоднай Рэспублікай Венланд (Freie Republik Wendland). Абвешчанае фарміраванне хутка набыло шэраг адзнак сапраўднай дзяржавы. Напрыклад, паўстала сімволіка — герб і сцяг, — памежная і нават пашпартная служба. 18 траўня 1980 года ў эфір выйшла пірацкая радыёстанцыя Radio Freies Wendland, якая вяла трансляцыі праз пабудаваную мясцовымі радыёвежу.

Як і трэба было чакаць, такі эксперымент прыцягнуў увагу простых бюргераў. У Венланд пацягнуліся турысты. На выходныя іх колькасць часам дасягала пяці тысяч. Сярод іх былі і VIP-персоны. Напрыклад, будучы канцлер ФРГ Герхард Шродар, які на той час кіраваў моладзевай секцыяй партыі сацыял-дэмакратаў. За кошт артыстаў, якія наведвалі лагер, культурнае жыццё там квітнела. Грамадзянам рэспублікі штодня прапаноўвалі не толькі лекцыі, чытанні або рок-канцэрты, аднак нават лялечныя прадстаўленні.

З улікам велізарнай грамадскай цікавасці да Венланду, улада на нейкі час адмовілася ад спробаў лакалізаваць пратэст. Для "хапуна" было патрэбнае нейкае алібі. Яно з'явілася дзякуючы спякотнаму надвор'ю і, адпаведна, пагрозе лясных пажараў. Са спасылкай на пажарную бяспеку раніцай 4 чэрвеня каля 3500 паліцэйскіх і прадстаўнікоў іншых ведамстваў пачалі зачыстку. Жыхары, як было дамоўлена раней, чынілі негвалтоўны супраціў, намагаючыся заблакаваць сваімі целамі сілавікоў. У выніку паліцэйскім давялося выносіць іх з лагеру на руках. Цікава, што пасля завяршэння аперацыі паліцыя падзякавала дэманстрантам за іх негвалтоўнасць.

Праўда, разагнаць той лагер было паловай справы. У шматлікіх гарадах Заходняй Германіі пасля 4 чэрвеня былі спробы зладзіць нейкія «майданы» супраць разгону Венланду. Звычайна іх даводзілася таксама ліквідоўваць з дапамогай паліцыі.

Зрэшты, як часта бывае ў гісторыі, эфект таго хапуна вельмі спрэчны. Доўгатэрміновае значэнне эксперыменту пад Гарлебенам — проста велізарнае для грамадскіх дэбатаў. Праціўнікі ядзернай энергетыкі разглядаюць чатырохтыднёвую акупацыю ўчастка з абвяшчэннем рэспублікі як вызначальную падзею ў гісторыі супраціву ядзернай энергетыцы. Эпапея, безумоўна, спрыяла інстытуалізацыі экалагічнага руху ў палітычны праект і стварэнню партыі «Зялёныя», якая з часам прыйшла да ўлады. Экалагічны лад жыцця і ўдзел у антыатамных акцыях — сталы трэнд дзвюх апошніх генерацый немцаў. Нарэшце, герб і сцяг Венланду з таго часу сталі сімвалам антыядзернага руху па ўсім свеце. Думаецца, у выпадку буйных пратэстаў супраць БелАЭС мы дакладна пабачым гэты сцяг і ў Беларусі.

# Як вы мову назавяце...

Алег НОВІКАЎ

**Для ўступлення ў NATO і ЕС македонцам давялося перайменаваць краіну. Аднак гэтага аказалася мала — цяпер прапануюць перайменаваць і мову.**

Натуральна, усе памятаюць нядаўнюю спрэчку паміж Афінамі і Скоп'е наконт таго, як павінна называцца былая югаслаўская рэспубліка Македонія. Пратэстуючы супраць спробаў паўночных суседзяў прываставаць міф пра Аляксандра Македонскага, грэкі амаль 30 гадоў тармазілі ўсе спробы Скоп'е на шляху ў NATO і ЕС. Кампраміс быў дасягнуты толькі ў мінулым годзе, калі македонцы пагадзіліся называць свой край «Паўночнай Македоніяй».

Пасля краіну ледзь не адразу, у сакавіку гэтага года, запісалі ў Паўночна-Атлантычны альянс. А вось далучыцца да ЕС на такой рэактыўнай хуткасці ў Паўночнай Македоніі дакладна не атрымаецца. Як толькі Брусель пагадзіўся пачаць кансультацыі наконт перспектываў уступлення краіны ў саюз, з'явілася новая сур'ёзная перашкода. Суседняя Балгарыя прыстрашыла заблакаваць перамовы ў выпадку невыканання Скоп'е шэрагу сваіх патрабаванняў.

Пакет патрабаванняў утрымлівае шмат цікавых пунктаў. Напрыклад, у Сафіі заклікаюць Скоп'е прызнаць, што ў Балгарыі няма македонскай этнічнай меншасці. Але самы арыгінальны пункт тычыцца моўнага пытання. Балгарскі ўрад вымагае паўночных македонцаў называць сваю мову «балгарскай». Паводле словаў дырэктара балгарскага МЗС Кацярыны Захарыевай, «македонская мова — заходнебалгарскі дыялект з дамешкам сербскай».

Увогуле, тэорыя пра тое, што македонцы — гэта балгары, папулярная ў Балгарыі. Лічыцца, што «не балгарамі» македонцаў зрабілі ўлады сацыялістычнай Югаславіі для дасягнення дзвюх стратэгічных мэтаў. Па-першае, трэба было неяк легітымізаваць тэрытарыяльныя апетыты на поўначы Грэцыі, асабліва адносна партовага горада Салонікі. Па-другое, балгарская ідэнтычнасць мясцовых жыхароў не выключала сцэнару паўстання руху за выхад з Югаславіі і аб'яднання з Балгарыяй. У рамках стварэння нацы македонцаў на базе дыялекту балгарскай быў створаны і такі атрыбут, як македонская мова.

Версія не паўстала на голым месцы. У гэтым балканскім рэгіёне гістарычна дзейнічалі балгарскія палітычныя рухі. Аднак так ці інакш, толькі 3 працэнты насельніцтва Паўночнай Македоніі (паводле апошняга перапісу) адносяць сябе да балгар. Зрэшты, у часы Ціта такіх увогуле практычна не было.




Сумесная прэс-канферэнцыя з Генеральным сакратаром NATO Енсам Столтэнбергам і прэм'ер-міністрам Паўночнай Македоніі Зоранам Заевым

Фота www.nato.int

Старыя комплексы Сафіі, магчыма, зноў пачалі выяўляцца праз нядаўні інцыдэнт у сумеснай балгарска-македонскай камісіі па гістарычных і адукацыйных пытаннях. Яе дзейнасць была прыпыненая македонскім бокам у снежні 2019 года. Усё з-за розных падыходаў наконт мясцовага народнага героя Гоца Дэльчава, які змагаўся супраць Асманскай імперыі. Для македонцаў Гоца Дэльчаў быў македонцам, а для балгараў — аднак значна балгарынам. У выніку Сафія, выставіўшы ўмовы Скоп'е наконт мовы, адпомсціла македонскаму боку.

У любым выпадку, кіруючы ў Паўночнай Македоніі ўрад сацыял-дэмакратаў не пагадзіўся на выкананне такіх умоваў. Нават дабіцца згоды на новую назву краіны ўдалося з вялікімі цяжкасцямі. Каб супакоіць аматараў назвы «Македонія», у тэксце дамовы з Грэцыяй ім асобным параграфам гарантавалі захаванне «македонскай ідэнтычнасці і

**Міністр замежных спраў Македоніі заявіў пра «немагчымасць наладзіць сяброўства, калі хтосьці аспрэчвае асобу суседа». Акрамя таго, існаванне македонскай мовы афіцыйна прызнанае ААН**

мовы». Таму тон рэакцыі Скоп'е быў прадказальны.

5 траўня міністр замежных спраў Македоніі Нікола Дзімітраў заявіў пра «немагчымасць наладзіць сяброўства, калі хтосьці аспрэчвае асобу суседа». Акрамя таго, палітык нагадаў, што існаванне македонскай мовы афіцыйна прызнанае Арганізацыяй Аб'яднаных Нацый. «Мы не можам весці перамовы на гэты конт», — рэзюмаваў Дзімітраў.

У прынцыпе, сітуацыйным выйсцем можа быць аднаўленне дзейнасці працы згаданай вышэй камісіі. «Калі камісія па змяшанай гісторыі да чэрвеня не пачне працаваць, а ўлады Скоп'е працягнуць фальсіфікаваць гісторыю, Балгарыя накладзе вета на пачатак перамоваў ЕС з краінай», — пагражае Андрэй Ковачаў, які прадстаўляе ў Еўрапарламенце кіруючую ў Балгарыі партыю ГЕРБ.

Між тым, у Скоп'е спадзяюцца на Брусель, дзе наўрад ці зразумеюць забабоны балгар. Тым больш, што іх патрабаванні выклікалі сярод македонцаў еўрафобскія настроі. «Калі коштам уступлення ў ЕС будзе адмова ад нашай мовы, Еўрасаюз нам не патрэбны», — кажа адзін з мясцовых палітыкаў. З улікам таго, што Балгарыя раней прагаласавала за пачатак перамоваў з Паўночнай Македоніяй, юрыдычна пераглядзець сваю пазіцыю яна ўжо не ў стане. Таму можна прагназаваць, што балгары ў выніку ўстрымаюцца ад ідэі ветаваць перамовы ЕС і Паўночнай Македоніі.

Іншае пытанне, чаго тыя перамовы будуць вартыя з улікам актуальных падзей? Яшчэ да старту пандэміі хапала скептычных каментараў наконт пражэкту пашырэння ЕС на тых жа Балканах. Цяпер жа абвешчаны раней графік уключэння ў Еўрасаюз Сербіі да 2025-га ўвогуле выглядае валюнтарызмам. Што ўжо казаць пра шанцы Паўночнай Македоніі і Албаніі, якую ЕС таксама паклікаў на перамовы наконт далучэння.

Асабліва шмат праблем, напэўна, будзе з Албаніяй, за якой замацаваўся вобраз крымінальнай краіны. Аргументуючы запрашэнне Албаніі да перамоваў, афіцыйны Брусель пафасна заявіў пра эпахальныя антыкарупцыйныя рэформы ў краіне і дасягнутыя высокія стандарты дэмакратыі. Нідэрландскае выданне De Telegraaf адрэагавала на гэта злым артыкулам з кідкім загалоўкам: «Хопіць нам хлусіць!».

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Анатоль Быкаў



Краснаярскі бізнесовец і палітык, магчыма, стаў першай у Расіі публічнай фігурай, якая пацярпела за дэманстратыўную сімпатыю да Лукашэнкі.Герой сюжэту быў затрыманы па падазрэнні ў забойстве двух чалавек. Асаблівага сюрпрызу ў гэтым няма, бо ён — тыповы выхадзец з «ліхіх 90-х» і раней ужо быў «на зоне».

Цікавейшае, што Быкаў паступова стаў кумірам левай антыпуцінскай апазіцыі. На іх думку, Быкаву вырашылі адпомсціць за яго гучныя заявы. Сапраўды, апошнім часам Быкаў стаў усё часцей гаварыць, што неабходна адраджаць СССР, а на чале паставіць кіраўніка Беларусі. Быкаў сцвярджаў, што гатовы бязвыплатна дапамагаць Лукашэнку «будаваць наш рускі праваслаўны свет з усімі тымі народамі, якія паміж намі жывуць».

Гэта і нарадзіла тэорыю пра помсту. «Варта было яму (Быкаву) незразумела з чаго публічна заявіць, што трэба аднавіць СССР і кіраўніком яго абраць Лукашэнку, як яго тут жа і павязалі. Супадзенне?» — піша адзін з камуністаў. На думку некаторых экспертаў, камуністы, у якіх вялікі дэфіцыт пасіянарыяў, вырашылі зрабіць з Быкава нейкага Робін Гуда. Ёсць і іншая версія. Вядома, што Быкаў таксама пазіцыянаваў сябе як прыхільнік аўтаноміі Сібіры. Не выключаю, што на фоне палітычнага напружання з-за віруса спецслужбы вырашылі перастрахавацца і ізаляваць асобу, якая ў тым ліку ўвасабляе ідэі сепаратызму.

### Наіб Букеле



На думку некаторых, прэзідэнт Сальвадора стаў першым дыктатарам Лацінскай Амерыкі, які прыйшоў да ўлады ў нашым стагоддзі. Такая траекторыя трошкі дзіўная з улікам біяграфіі героя сюжэту. Ён — былы паспяховы кандыдат — прарваўся на палітычны алімп як незалежны. Першы званок прагучаў у лютым гэтага года, калі мясцовы парламент зацягваў ухваленне фінансавай пазыкі, якую лабіяваў Букеле. Каб дамагчыся патрэбнай яму папраўкі, гарант з вайскоўцамі ўварваўся ў заканадаўчы орган, патрабуючы ўхвалення яго рашэнняў. Апазіцыя абвінавачвала прэзідэнта і войска ў запалохванні дэпутатаў, аднак гэта былі толькі кветачкі.

21 сакавіка Букеле абвясціў у краіне рэжыму каранціну — прычым, незвычайна жорсткі. За 30 дзён за парушэнні санітарных правілаў было арыштавана больш за 2000 чалавек. Паляванне на парушальнікаў прымусіла Вярхоўны суд прыняць рашэнне пра забарону такой практыкі. У адказ Букеле напісаў у Твітары пост: «Пяць суддзяў не могуць вырашаць лёсы сотняў тысяч». І дабіўся закона, які дазваляе арышты.

Не падабаецца праваабаронцам цяперашняя кампанія прэзідэнта супраць злачынцаў, якіх катуюць у турмах. Пакуль няма ніякіх прыкметаў, што трэнд спыніцца. Амаль 80 працэнтам сальвадорцаў падабаецца жорсткі курс кіраўніцтва. Заплюшчваюць вочы на фокусы Букеле і ў Вашынгтоне, дзе ў прыярытэце супрацоўніцтва з лацінаамерыканскімі рэжымамі па пытанні нелегальнай міграцыі ў ЗША.

### Халед аль-Анані



Егіпецкі міністр антычнасці і турызму (ёсць такая пасада ў гэтай краіне) ініцыяваў праект, які стаў топавай тэмай грамадскай дыскусіі. Згодна з яго прапановай, плануецца ўпрыгожыць плошчу Тахрыр, што ў цэнтры сталіцы, велізарнымі старажытнымі сфінксамі. Яны ствараць кампазіцыйную групу з абеліскам часоў Рамзэса Другога, які прыцягнулі сюды ў мінулым годзе.

Гэта трэба, каб не саступаць еўрапейскім сталіцам, якія дэкаравалі свае вуліцы статуямі і абеліскамі, што спецыяльна прывозілі з берагоў Нілу, кажа міністр. На яго думку, манументы сфінксаў стануць таксама добрым атракцыёнам для турыстаў. Падавалася б, нявінная прапанова выклікала сапраўднае цунамі пратэсту. Навукоўцы баяцца, што кепская атмасфера ў цэнтры Каіра — вынік шчыльнага аўтатрафіку, — паступова разбурыць помнікі. Чыноўнікі UNESCO кажуць, што транспарціроўка помнікаў туды-сюды — гэта замах на гістарычную спадчыну. Клерыкалы, якія пабачылі ў сфінксах прапаганду антыісламскіх забабонаў.

Але больш за ўсіх абурана новым дызайнам Тахрыра ліберальная апазіцыя. Гэта плошча з'яўляецца сімвалам народнага паўстання 2011 года, калі егіпцяне дабіліся адстаўкі аўтарытарнага прэзідэнта Хосні Мубарака. Лічыцца, што за кошт рэканструкцыі плошчы ўлада намагаецца знішчыць памяць пра той паспяховы Майдан.

# «Чалавечыя натоўпы працягваюць свае скокі смерці на апакаліптычным вулкане»

## Доктар Леніна супраць COVID-19

Юрый ГЛУШАКОЎ

**Лекар з Гомеля яшчэ ў пачатку мінулага стагоддзя распрацаваў метад лячэння, які, магчыма, можна выкарыстаць і супраць наступстваў каронавіруса. А ўвогуле доктар Залманаў лічыў, што абуджэнне схаваных сіл арганізма — галоўны складнік у барацьбе з любымі хваробамі.**

### Праніклівы погляд і адчувальныя рукі

У 1875 годзе ў сям'і Саламона Залманава ў павятовым Гомелі нарадзіўся хлопчык, якога назвалі Абрамам. Бацька служыў настаўнікам у Гомельскім габрэйскім вучылішчы, але фанатычнай прыхільнасці да іудаізму не меў. І праз некалькі гадоў прыняў хрысціянства, а сыну свайму пры хрышчэнні даў імя Аляксандр. Хлопчык рос надзвычай кемлівым, скончыў гімназію з залатым медалём і без праблем паступіў на медыцынскі факультэт Маскоўскага ўніверсітэта. Пры гэтым на 4-м курсе Аляксандр перайшоў на юрыдычны факультэт, а яшчэ — адначасова наведваў лекцыі знакамітага гісторыка Ключэўскага.

Як і вялікая частка моладзі таго часу, студэнт з Гомеля захапляўся рэвалюцыйнымі і сацыялістычнымі ідэямі. Прыкладна тады ж у Маскоўскім універсітэце вучыўся яшчэ адзін гамяльчанін — Пётр Карповіч, пазашлюбны сын памешчыка і сялянкі ды далёкі нашчадак імператрыцы Кацярыны II. У 1899 годзе ў шэрагу ўніверсітэтаў Расійскай імперыі ўспыхнуў страйк, выкліканы самаўпраўнасцю кіраўніцтваў ВНУ. Залманаў не проста ўдзельнічаў у ім, а быў нават адным з арганізатараў усерасійскай студэнцкай стачкі. За што быў арыштаваны царскай паліцыяй і адлічаны з універсітэта. Па мерках злоснага самадзяржаўнага рэжыму, студэнт з Гомелю яшчэ лёгка выкараскаўся. За актыўную грамадзянскую пазіцыю ён мог бы і з'ехаць у Сібір на некалькі гадоў.

Пасля гэтых падзей Залманаў эміграваў у Германію, паступіў на медыцынскі факультэт Гейдэльбергскага ўніверсітэта. У Германіі апынуўся і Карповіч, які зблізіўся з гуртком народавольніцкага кірунку.

Пры гэтым частку ўдзельнікаў студэнцкіх выступленняў аддалі ў салдаты. У знак пратэсту супраць гэтага двое маладых людзей нават скончылі жыццё самагубствам. А Карповіч вярнуўся ў Расійскую імперыю і 12 лютага 1901 года ад імя партыі эсэраў смяротна параніў рэакцыйнага міністра адукацыі Багалепава.

Аляксандр Залманаў у сваім служэнні народу пайшоў па іншым шляху — навукі і медыцынскай практыкі. Скончыўшы ўніверсітэт у Гейдэльбергу, ён працаваў там асістэнтам неўрапатолага. У 1906 годзе ён пераехаў у італьянскі горад Нэрві пад Генуяй, дзе ўзначаліў курортную лякарню. Тут ён працягнуў займацца навуковымі пошукамі разам з лекарамі Мандэльбергам і Майсеевіч. Як сказана ў рэкламнай абвестцы таго часу, лякарня знаходзілася ў «трапічным парку каля мора». Тут лячыліся пацыенты з лёгачнымі і сардэчнымі захворваннямі. Каштавала лячэнне нямала — 6–8 рублёў на суткі. Але адначасова Залманаў аказваў дапамогу расійскім палітэмігрантам. І разам з іншымі лекарамі і журналістамі заснаваў «Таварыства міласэрнасці для рускіх бежанцаў». Палітуцекачы былі заўсёднікамі і арганізаванай Залманавым бібліятэкі.

Напрыклад, там жыла эсэрка Алена Грыгаровіч, якая ўваходзіла ў баявую групу Барыса Савінкова, мастачка, антрапасофка і сяброўка Канстанціна Бальмонта. На віле ў Залманава папраўляў здароўе і легендарны народаволец Герман Лапацін, які адбыў 22 гады адзіночнага зняволення ў Шлісельбургу. Тут жа жыла і лячылася ад сухотаў яго пляменніца Злата Лапаціна, студэнтка Генуэзскага ўніверсітэта. На цяжкую хваробу сэрца пакутавала і жонка самога доктара, графіня Вольга Эмануілаўна з арыстакратычнага роду Сіверс. Ужо тады доктар Залманаў актыўна рэкамендаваў сваім пацыенткам сонечныя ванны ды прымушаў тых гадзінамі прымаць іх на саламяных крэслах на тэрасе.

У Італіі ўраджэнец Гомеля хутка стаў сваім. «Рухавы, поўны гумару, маленькага росту, з праніклівымі вачыма, з вечнай папяросай у роце і рукамі, надзвычай адчувальнымі, гэты чалавек пражыў жыццё, падобнае на раман», — так апісваў Залманава яго італьянскі вучань, будучы прафесар медыцыны і прадаўжальнік яго справы Марыё Манчыні.

У 1911 годзе доктара напаткала няшчасце — яго жонка Вольга, здароўе якой ужо пайшло на папраўку, пасля паездкі ў Парыж прастыла і раптоўна памерла. Другой жонкай лекара стала яе сяброўка Злата Лапаціна, пляменніца народавольца.

У тым жа 1911 годзе Залманаў атрымаў італьянскі дыплом доктара медыцыны, стаў чальцом Каралеўскай акадэміі медыцыны ў Генуі. У Расіі ж ён першым укараніў метад пнеўматораксу пры сухотах лёгкіх — праз Ваенна-медыцынскую акадэмію. З пачаткам Першай сусветнай вайны Залманаў палічыў сваім абавязкам вярнуцца дадому і аказваць дапамогу людзям. Ужо праз дзесяць дзён пасля пачатку баявых дзеянняў доктар быў на фронце. Ён узначаліў санітарны цягнік і асабіста вывозіў з перадавой параненых, праводзіў хірургічныя аперацыі. Затым быў начальнікам ваенных шпіталяў у Маскве. Быў «палітычны» атрымаў медыцынскі чын, роўны званню генерала. Адначасова ён з'яўляўся рэдактарам медыцынскага часопіса Маскоўскай гарадской управы, дзе публікаваў вынікі сваёй навуковай дзейнасці, якую не спыняў нават ва ўмовах сусветнай вайны.



Доктар Залманаў

**Аляксандр Залманаў выехаў за мяжу для вучобы і працягу навуковай працы. Але пасля стаў «невяртанцам». Магчыма, доктар разбіраўся не толькі ў медыцыне, і змог паставіць дыягназ далейшаму развіццю палітычнага рэжыму на чале са Сталіным**

### Выдалены ад Леніна за добрае лячэнне?

Рэвалюцыю 1917 года сацыяліст Залманаў вітаў. У 1918 годзе ён працягваў працаваць у інфекцыйным і тэрапеўтычным шпіталях у Маскве. А ў жніўні 1918 года быў прызначаны першым начальнікам Галоўнага курортнага ўпраўлення і загадчыкам Дзяржаўнай камісіі па барацьбе з сухотамі, — страшным бічом таго часу. У Маскве Залманаў заснаваў бальнеалагічны інстытут. Звыклымі бясплатнымі санаторыямі, якія з'явіліся ў СССР, мы абавязаныя шмат у чым і гэтаму лекару з Гомеля.

У кастрычніку 1918 года доктара выклікалі для лячэння старшыні Саўнаркома Уладзіміра Леніна, яго жонкі Надзеі Крупскай і сястры Марыі Ульянавай. Тэрапія, відавочна, была настолькі паспяховай, што Ульянаў-Ленін у 1921 годзе асабіста падпісаў Залманаву дазвол на выезд за мяжу.

Паводле іншай версіі, Залманава адправілі за мяжу змоўшчыкі ў партыі. Маўляў, хвораму Леніну стала значна лепш пасля прапісаных яму шкіпінаравых ваннаў, і, калі б Абрам Саламонавіч і далей быў асабістым лекарам Уладзіміра Ільіча, Іосіф Вісарыёнавіч так бы і не змог прыйсці да ўлады. Зрэшты, гэта ўжо чыстай вады канспіралогія — і зусім іншая гісторыя. Але, паводле некаторых звестак, і сам Сталін пасля лячыўся і амаладжваўся па методыцы доктара Залманава.

Аляксандр Залманаў выехаў за мяжу для вучобы і працягу навуковай працы. Але пасля стаў «невяртанцам». З якой прычыны — гэта пакуль таксама з'яўляецца «белай плямай» у яго біяграфіі. Магчыма, доктар някепска разбіраўся не толькі ў медыцыне, і змог паставіць дыягназ далейшаму развіццю палітычнага рэжыму на чале са Сталіным. Лекар Залманаў больш ніколі не вярнуўся ў СССР. Але, тым не менш, ён да канца жыцця захоўваў пашпарт і лічыў сябе савецкім грамадзянінам.

Збярог Залманаў і дазвол на выезд за мяжу, падпісаны «правадыром сусветнага пралетарыяту». Хутчэй за ўсё, гэты дакумент выратаваў доктару жыццё. Бо ў 1937 годзе шматлікія выбітныя савецкія навукоўцы былі рэпрэсаваныя новай «ахранкай» — НКУС. Блізкасць да Леніна і актыўны ўдзел у рэвалюцыйным руху ў дадзеным выпадку былі не індульгенцыяй, а абцяжарваючай акалічнасцю. Фактычна, знішчыўшы старых сацыялістаў, сталінская бюракратыя зрабіла ў СССР контррэвалюцыйны міні-пераварот.

Як бы ні было, але далейшая лекарская і навуковая дзейнасць Абрама-Аляксандра Залманава ўжо праходзіла за мяжой. Доктар дасканала валодаў пяццю замежнымі мовамі, што дазваляла яму лёгка арыентавацца ў апошніх дасягненнях сусветнай навукі. На працягу 8 гадоў Залманаў наведваў шпіталі і клінікі медыцынскага факультэта Берлінскага ўніверсітэта, працаваў у паталагаанатамічным інстытуце, інстытуце фізіялогіі і калоіднай хіміі.

Ужо пасля смерці Сталіна, у 1958 годзе ў СССР была выдадзена кніга Залманава «Таемная мудрасць чалавечага арганізма». Праўда, у яе ўвайшлі не ўсе прапанаваныя ім метады. Частка з іх была выдалена з асноўнага выдання і выдадзена асобнай брашурай «для ўнутранага карыстання». Мабыць, афіцыйныя медыкі баяліся, што простая, але надзейная рэцэптура неардынарнага доктара будзе выкарыстоўвацца знахарамі і лекарамі. Аляксандр Залманаў выдаў і шэраг іншых прац.

Памёр Абрам Саламонавіч у Францыі ў 1964 годзе, ва ўзросце 88 гадоў.

### Абуджэнне ўнутранай сілы

Сёння кнігі Аляксандра Залманава перавыдаюцца і, нібыта,

перажываюць другое нараджэнне. Але чаму ўсё ж навуковец з сусветным імем у свой час аказаўся ў нас такім незапатрабаваным? І з-за чаго памяць пра гэтага выдатнага медыка ў нашым рэгіёне дагэтуль не ўвекавечаная?

Прычыны тут могуць быць розныя. Напрыклад, у яго біяграфіі ёсць пляма: у гады Другой сусветнай вайны Абрам Залманаў, па чутках, лячыў кіраўнікоў «Трэцяга рэйха». Наўрад ці з ідэйных сімпатый — але ж як лекар ён абавязаны лячыць любога хворага? Дый, магчыма, і выбару ў яго папросту не было. Але, хутчэй за ўсё, гэта не прычына забыцця — мажліва, проста нагода, якую выкарыстоўваюць яго праціўнікі.

Яшчэ пры жыцці ў доктара Залманава хапала і ворагаў, так і апанентаў. Можа, уся справа ў тым, што прапанаваная ім методыка лячэння заснаваная перш за ўсё на абуджэнні натуральных сіл арганізма. І далёка не ўсім прадстаўнікам старой забюракратызаванай, і цяперашняй манетызаванай медыцыны такі падыход падабаецца. І, канешне, ён проста супрацьпаказаны для бізнесу і магутных фармацэўтычных карпарацый.

Аляксандр Залманаў з'яўляўся буйным спецыялістам у геранталогіі (навуцы пра старэнне арганізма і яго запаволенне), курорталогіі і шэрагу іншых напрамкаў. Напрыклад, ім яшчэ ў пачатку XX стагоддзя было складзенае падрабязнае апісанне курортных мясцовасцяў Усходняй Рыўеры, дацледаваныя лячэбныя ўласцівасці італьянскага клімату. Пра яго ролю ў арганізацыі савецкай курортнай справы мы ўжо казалі.

Пасля Другой сусветнай вайны доктар Залманаў працаваў у Францыі. І, нібы зазіраючы ў будучыню, пісаў пра рост колькасці французскіх пенсіянераў: «Трэба паміраць у 90 гадоў. Трэба захаваць грамадскую каштоўнасць, чалавечую годнасць да апошняга ўздыху. Трэба даць старому магчымасць зарабляць, для дзяржавы і для падаткаплацельшчыка гэта самая здаровая эканомія; для старога — адзіная магчымасць, дзеля якой варта жыць».

Прычынай дачаснага старэння з'яўляецца клеткавае старэнне, якое шмат у чым выклікана недастатковым капілярным харчаваннем клетак крывёю. Узроставым зменам арганізма Залманаў даваў наступную характарыстыку: «Старасць можа быць вызначана як паступовае высыханне арганізма з прычыны паступовага закрыцця капіляраў». Гэта вядзе да парушэнне клеткавага метабалізму, і, як вынік, — да старэчага пераараджэння. Бо клетка — гэта арганізм чалавека ў мініяцюры. «Усякая хвароба — гэта мясцовае ці агульнае прыпыненне руху жыцця, без прыпынку кровазвароту, без перашкоды руху пазаклеткавай вадкасці няма хваробы», — лічыў Залманаў. Тыя ж пнеўманіі, такія пагібельныя ў сталым узросце, і ніхто супрацьзльнасць рэспіраторным інфекцыям можна перамагчы праз стымуляванне лёгачных капіляраў і альвеолаў.

На думку Залманава, «капілярная тэрапія» можа адыграць вялікую ролю ў аздараўленні і амаладжэнні чалавека. Актывізацыя кровазвароту за кошт дробных сасудаў здольная даць каласальны эфект. Тым больш, што ў буйных сасудах і органах засяроджана толькі 10 працэнтаў агульнага аб'ёму крыві.

Аляксандр Залманаў адным з першых прапанаваў развіваць супрацоўніцтва медыцыны не толькі з хіміяй і біялогіяй, але і з фізікай. Чалавечы арганізм ён вобразна прыпадабняў да рэактару, у якім штосекундна адбываецца мноства мікравыбухаў з вылучэннем велізарнай колькасці энергіі. Прычым гэтыя «выбухі» ў чалавечым рэактары могуць быць як стваральныя, так і разбуральныя. Навучыцца кіраваць імі — важная задача.

Апелюючы да міждысцыплінарнага сінтэзу навук, доктар Залманаў дамагаўся лекавання самымі простымі і даступнымі сродкамі. Актывізацыі капілярнага кровазвароту ён дасягаў з дапамогай простых прэпаратаў на аснове шкіпінару. Лячэбныя ўласцівасці субстрату хваёвай «жывіцы» здаўна былі вядомыя беларускім сялянам. Залманаў сцвярджаў, што шкіпінаравыя ванны — «гэта сапраўдная гімнастыка для капіляраў і перавыхаванне органаў кровазвароту». Яго шкіпінаравыя ванны былі прынятыя ў якасці лячэбнага метаду Міністэрствам аховы здароўя Францыі. А прэпарат «Скіпафіт» да гэтага часу прадаецца ў кожнай аптэцы.




**Працягласць жыцця чалавека ёсць вынік яго звычак, ладу жыцця, які ён вядзе. Зніклыя было эпідэміі зноў узнікаюць у наш час з прычыны фізічных і душэўных парушэнняў, дэмагогіі, палітычнай хлусні , татальных войнаў і памылак навукі**

## Стары метад супраць новых выклікаў

А што ж каронавірус? У часы нашага лекара COVID-19 яшчэ не быў вядомы. Але выпадкі запалення лёгкіх былі частымі, а ў 1918–1919 гадах грып «іспанка» забіў ад 50 да 100 мільёнаў чалавек. Залманаў у ліку іншага займаўся і лёгачнымі захворваннямі, і інфекцыйнымі. У сваёй кнізе ён робіць цікавыя назіранні, што на скуры і ў арганізме амаль кожнага чалавека жыве велізарная колькасць самых розных мікробаў, да газавай гангрэны і слупняку ўключна. Але толькі ў пэўных сітуацыях яны выклікаюць захворванне. Да правакуючых фактараў доктар Залманаў адносіў псіхічную дэпрэсію, капілярны застой і многае іншае. «Але перш чым ужываць антыбіётыкі, дайце дзейнічаць "полібіётыкам", — заўважаў Залманаў. — Для гэтага трэба аднавіць кровазварот у капілярах, то-бок ачысціць кроў, аднавіць яе цыркуляцыю, выдаліць з крыві шкодныя рэчывы, адкрыць дарогу фагацытозу, абмыць мікробы цыркуляванай плазмай; тады яна склеіць, прэцыпітуе, абясшкодзіць і ліквідуе мікробаў, як вада ў рацэ ліквідуе свой бруд, таму што ў кожнай кроплі крыві больш антыцелаў, чым ва ўсіх лабараторыях свету».

Ужо ў 1958 годзе Залманаў робіць амаль што прарочае прадказанне: «Працягласць жыцця чалавека ёсць вынік яго звычак, ладу жыцця, які ён вядзе. Зніклыя было эпідэміі, якія раней выносілі шмат жыццяў, зноў узнікаюць у наш час з прычыны фізічных і душэўных парушэнняў, з прычыны дэмагогіі, палітычнай хлусні (найвялікшай сацыяльнай хваробы), з прычыны татальных войнаў і памылак навукі».

Навуковец Залманаў зусім не ідэалізуе магчымасці навукі і стан сучаснай яму медыцыны. Ён звязвае яе крызіс і з таталітарнымі рэжымамі, і з грамадствам спажывання: «Сучасная медыцына, якая спрабуе шляхам фармакадынамічнай хіміі дамагчыся хуткага паказальнага акрыяння і не думае пра фізіялагічную будучыню хворых, народжана ў ваенны і пасляваенны перыяды 1914 і 1945 гадоў. Дзве сусветныя вайны і іх пагроза, «халодная вайна», розныя ідэалогіі, норавы, таксама радыкальна змянілі тэрапію і прынцыпы рацыянальнага нагляду за хворымі.

Да жніўня 1914 года клініка, арганізуючы дагляд за параненымі і хворымі, кіравалася ідэямі прафілактычнай медыцыны, пазбягала паскарэння этапаў нармальнай эвалюцыі хвароб, маючы на ўвазе натуральныя ахоўныя рэакцыі самога хворага арганізма.

Сучасная медыцына — гэта дзіўнае спараджэнне перыяду велізарных сацыяльных пераваротаў, рэвалюцый, контррэвалюцый, дыктатур разнастайных афарбовак ("чырвоных", "сініх", "карычневых", "белых", "зялёных" і іншых) — была вымушана хутка задавальняць патрэбы армій па ходзе бою. Патрабавалася неадкладна аперааваць, ставіць на ногі параненых байцоў і хворых для хуткага папаўнення стратаў. У сувязі з гэтай катэгарычнай непазбежнасцю медыцына ва ўсіх краінах добра выконвала свой абавязак.

Пры вяртанні ж да нармальнага жыцця медыцынская думка павінна была ацаніць карысныя набыцці (хоць іх было мала), знайсці згубленыя шляхі прафілактычнай медыцыны, каб прадбачыць цяжкія ўскладненні і пазбегаць іх у будучыні.

З 1914 года падвоілася колькасць флебітаў, артэрытаў, захворванняў сэрца. Трэба берагчы сценкі вен, берагчы нармальны склад крыві, трэба скараціць занадта вялікую колькасць унутрывенных уліванняў.

Трэба даць сабе справаздачу ў тым, што лішак антыбіётыкаў у час уздыму тэмпературы забівае ахоўныя сілы арганізма, робіць яго алергічным, на шмат месяцаў пазбаўляючы супраціўляльнасці. Трэба скараціць колькасць вакцынацый. Нерацыянальна знішчаць неабходны для арганізма сімбіёз з мікробамі. Без падземных бактэрый наша глеба не магла б даць нам збожжа, гародніны і садавіны.

Злоўжыванне антыбіётыкамі, паўтораныя вакцынацыі, памяншаючы вірулентнасць розных відаў мікробаў, культывуюць устойлівыя ультравірулентныя мікробы і абяззбройваюць арганізм перад многімі інфекцыйнымі захворваннямі.

Род чалавечы з'явіўся на Зямлі, ён схільны тым жа ўплывам, што і наша планета. Чалавек павінен адаптавацца да зменаў клімату згодна сезонам, зменаў тэмпературы ў розных геаграфічных паясах. Авіяцыя, што пераносіць нас за некалькі гадзін з Аляскі ў Бразілію, з Паўночнага полюсу на экватар, патрабуе вельмі хуткай адаптацыі да рэзкіх зменаў тэмпературы і атмасфернага ціску.

Празмерная колькасць людзей у вялікіх гарадах, дзе атмасфера атручаная сажай, дымам, выдзяленнем газаў незлічонымі машынамі, прымушае наш арганізм адаптавацца да жыцця пры вялікім кіслародным дэфіцыце. Дадайце да гэтага паўсюднае прагрэсуючае заражэнне радыеактыўнымі рэчывамі — і вы зразумееце, што чалавецтва перажывае перыяд вялікай біялагічнай рэвалюцыі, якая можа справакаваць у будучых пакаленнях не толькі функцыянальныя, але і структурныя змены.

Чалавечыя натоўпы, атупелая ад спорту (прагляду спартыўных шоу. — Ю.Г.), радыё, тэлевізара, ад газетнага дурману, ад стэрыльнага навучання ў дзяржаўных школах (дагматычнага, амаральнага, антыграмадзянскага), працягваюць свае скокі смерці на апакаліптычным вулкане».

Але вернемся ўласна да тэрапіі. Сёння ў інтэрнэце выкладзены відэазапіс аднаго ізраільскага лекара. У стадыі, калі вірусная інфекцыя ўжо выклікала пнеўманію і фіброз лёгкіх, ён прапануе гарачыя абкручванні груднай клеткі па метадыцы доктара Залманава. І сапраўды, у кнізе «Таемная мудрасць чалавечага арганізма», напісанай вельмі жывой і амаль паэтычнай мовай, абкручванні і стымулюючыя дыханне ўколы камфары прыпадабняюцца да «праветрывання чалавечага арганізму». Залманаў рэкамендаваў абгортваць грудную клетку хворага на пнеўманію змочанымі ў гарачай вадзе ручнікамі, але па адмысловай тэхналогіі.

Не будучы спецыялістамі, мы не бярэмся каментаваць гэты метад. Аднак акадэмік Класоўскі ўхвальна адгукаўся пра неспецыфічную тэрапію Залманова, у тым ліку і пра метад абкручвання. Па выніках такога лячэння яшчэ ў пецярбургскіх клініках паказвалася, што жыццёвая ёмістасць лёгкіх у сярэднім павялічвалася з 52 да 83 працэнтаў. Мы ж проста канстатуем: і праз шмат гадоў многія простыя метады лячэння, прапанаваныя нашым земляком застаюцца дзейснымі.

Пры гэтым доктар Залманаў зусім не адмаўляў і не грэбаваў традыцыйнымі метадамі сучаснай яму медыцыны. Але ўсё ж рэкамендаваў без патрэбы не злоўжываць рэнтгенам, унутрывеннымі ўколамі, што траўмуюць сценкі сасудаў, антыбіётыкамі і іншымі моцнадзейнымі прэпаратамі. Катэгарычна выступаў і супраць папулярнага ў яго час электрашоку.

А прапанаваны доктарам з Гомеля прынцып абуджэння ўласных сіл арганізма з'яўляецца надзвычай актуальным і ў нашы дні — на фоне маштабнай пандэміі небяспечнай інфекцыі і іншых медыцынскіх праблем.

# Ці былі здзейснены захады? Адпіска Крычаўскага райвыканкама ці нахабства святара?

Алесь КРЫЖЭВІЧ

**На Замкавай гары ў Крычаве, нягледзячы на ліст з райвыканкама, дзе абвяшчалася забарона працягваць працы на помніку археалогіі, будаўніцтва нават і не спыняліся, а цагляная царкоўная лаўка ўжо амаль збудаваная.**



**Мікалаеўская царква ў Крычаве.** Фота wikipedia.org

Прайшоў практычна месяц ад часу з'яўлення інфармацыі пра тое, што настаяцель Мікалаеўскай царквы ў Крычаве Андрэй Ігнатушка будзе прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці, бо «правядзенне будаўнічых работ без дазволу Міністэрства культуры і Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі не дазваляецца».

Менавіта такая фармулёўка прапісана ў адказе Крычаўскага райвыканкама на зварот за подпісам намесніка старшыні Еўдакіменкі Ірыны Васільеўны, дзе пазначана: «Настаяцель Мікалаеўскай царквы будзе прыцягнуты да адміністратыўнай адказнасці ў адпаведнасці з арт. 21.3 Кодэкса аб адміністратыўных правапарушэннях Рэспублікі Беларусь». Больш за тое, у лісце адзначана часовая забарона будаўнічых работ на помніку археалогіі: «Уласніку Мікалаеўскай царквы дадзена прадпісанне аб забароне правядзення будаўнічых і зямельных работ па вазвядзенню (ці ёсць такое слова ў беларускай мове?) царкоўнай лаўкі да поўнага афармлення неабходнай дакументацыі і правядзення работ па кансервацыі рэштак цагляных збудаванняў, размешчаных на царкоўных землях».

Нядаўна мне давялося пабыць на Замкавай гары і ўбачыць абсалютна супрацьлеглую карціну — будаўніцтва лаўкі працягваецца абсалютна бесперашкодна. Прычым яно і не спынялася, бо цагляная пабудова ўжо зроблена прыблізна на 70%. З гэтага вынікае, што тэкст ліста за подпісам спадарыні Еўдакіменкі пра адміністрацыйнае пакаранне настаяцеля Мікалаеўскай царквы і часовае прыпыненне будаўніцтва — простая адпіска. Нічога са згаданага ў адказе Крычаўскага райвыканкама не было здзейснена, што чарговы раз сведчыць пра абыякавую пазіцыю мясцовай улады ў пытаннях гісторыі і культуры старадаўняга горада. Іх абсалютна не цікавіць старажытныя помнікі, бо гэта не дае кар'ернага росту ці высокіх узнагарод.

Не лепшай сітуацыя выглядае з будаўнічымі працамі на тэрыторыі Свята-Уваскрасенскай царквы, якая з'яўляецца старадаўнім цэнтрам горада. Раней гэтая тэрыторыя была часткай парка, аднак бацюшка гэтай царквы вырашыў пашырыць тэрыторыі царкоўных уладанняў. Цёплае надвор'е дало магчымасць праглядзець адвалы зямлі, на якіх былі выяўлены часткі кафлі XVII – XVIII стагоддзяў з разнастайнымі малюнкамі, кераміка (розныя часткі ганчарнага посуду: донцы, сценкі, венчыкі) прыблізна ж гэтага часу, старая чырвоная цэгла. Акрамя гэтага была знойдзена манета ў кепскім стане захаванасці. Знойдзеная манета — 2 капейкі Аляксандра I 1812 года, якая мела зварот у Расійскай імперыі і рабіліся з медзі. Гэта знаходка, натуральна, не лічыцца рэдкай і вялікай каштоўнасці не ўяўляе.

Прыведзеныя факты сведчаць, што тэрыторыя царквы ў цэнтры старой часткі Крычава з'яўляецца гістарычным месцам, а будаўнічыя працы на такой тэрыторыі абавязкова павінны праводзіцца разам са спецыялістамі-гісторыкамі, а лепш — археолагамі, аднак гэтага не робіцца. Такім чынам, на сённяшні момант сур'ёзны культурны слой тэрыторыі Свята-Уваскрасенскай царквы належыць прафесійна даследаваць і толькі пасля гэтага, з дазволу спецыялістаў і адпаведных інстанцый, пачынаць будаўнічыя працы.



**Знесеная частка вала пры будаўніцтве царкоўнай лаўкі**

# БагатаДата

**А вы ведаеце, што найлепшая спартсменка свету 1972 года — беларуска? І што дзень піянерыі ўсё яшчэ адзначаецца ў нашай краіне? Яшчэ больш цікавых фактаў — у нашым аглядзе.**

### 16 траўня

**Міжнародныя дні святла,** а таксама **Міжнародны дзень мірнага суіснавання.**

**1930.** У расійскім Навасарайску нарадзіўся спявак, народны артыст Беларусі Віктар Чарнабаеў. Паўстагоддзя служыў у Тэатры оперы і балета.

**1950.** У горадзе Стэрлітамак, што ў Расіі, нарадзіўся беларускі кампазітар Ігар Палівода. Удзельнік гурта «Песняры». Сярод яго вядомых песень: «Сівы голуб», «Па-над белым пухам вішняў», «Песню бярыце з сабой».

**1955.** У Гродне нарадзілася славутая гімнастка Вольга Корбут. Чатырохразовая алімпійская чэмпіёнка. У 1972 годзе прызнаная найлепшай спартсменкай свету.

### 17 траўня

**Сусветны дзень электрасувязі ды інфармацыйнага грамадства.**

**1950.** У Баранавічах на Брэсчыне нарадзілася дысідэнтка, праваабаронца Валерыя Навадворская. Пераехала з сям'ёй у Маскву ў 9-гадовым узросце. Заснавальніца расійскай ліберальнай партыі «Дэмакратычны саюз».

**1970.** У Мінску нарадзілася спявачка Анжаліка Агурбаш. У другой палове 1990-х гадоў выступала як Ліка Ялінская. Дастаткова папулярнымі былі такія песні, як «Гора за гарой», «Белае віно і чырвонае», «Раз ды разок» (на вершы Уладзіміра Някляева), «Наўздагон» («Пагоня»). Прадстаўляла Беларусь на конкурсе «Еўрабачанне–2005». Апошнімі гадамі — на расійскай эстрадзе.

**1995.** На грунце дзвюх вучэльняў — Мінскага вышэйшага ваеннага інжынернага і Мінскага вышэйшага ваеннага каманднага — створана Ваенная акадэмія Рэспублікі Беларусь.

### 18 траўня

**Міжнародны дзень музеяў.**

**1910.** У вёсцы Чухны Смаргонскага раёна на Міншчыне нарадзіўся геолаг-разведчык Павел Леановіч. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР за адкрыццё і разведку Старобінскага радовішча калійнай і каменнай солі — аднаго з самых буйных у свеце. Гэта сыравінная база «Беларуськалія».

### 19 траўня

**Дзень піянерыі па-ранейшаму афіцыйна адзначаецца ў Беларусі.**



Фота Аляксея Сталярова

### 20 траўня

**Сусветныя дні траўматалагіі і метралогіі.**

**1980.** У Мінску адкрыўся Камароўскі рынак (Камароўка) — галоўны харчовы рынак сталіцы.

### 21 траўня

**Сусветны дзень культурнай разнастайнасці.**

**1960.** У Мінску нарадзілася Алена Хлопцава, чэмпіёнка і прызёрка Алімпійскіх гульняў, а таксама неаднаразовая чэмпіёнка свету ў акадэмічным веславанні.

### 22 траўня

**Сусветны дзень біялагічнай разнастайнасці.**

**1925.** У Беларусі ўведзена першая прыгарадная аўтобусная лінія па маршруце Мінск — Чэрвень (да 1923 года называўся Ігуменам).

**1940.** У Мінску нарадзіўся артыст балета і балетмайстар Віталь Бутрымовіч. У 1980-х гадах быў галоўным балетмайстрам Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі Беларусі.

**Падрыхтаваў Павел Кірылаў**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 17 347-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №808

Падпісана да друку 15.05.2020. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.